ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 31 (2485) 1 жніўня 1996 г.

Выдаецца з 1955 г. Цана 1000 рублёў.

## Мікола СТАТКЕВІЧ:

# "Я ГАТОВЫ СУПРАЦОЎНІЧАЦЬ З УСІМІ, ХТО ПАДТРЫМЛІВАЕ І ПРАЦУЕ НА СУВЕРЭНІТЭТ КРАІНЫ І КАШТОЎНАСЦІ ДЭМАКРАТЫІ"

***Міколе Статкевічу 40 гадоў. Нарадзіўся ён у вёсцы Лядна Слуцкага раёна ў сям'і вясковых настаўнікаў. Скончыў Мінскае вышэйшае інжынернае зенітна-ракетнае вучылішча (ВІЗРУ) і працаваў пэўны час на Крайняй Поўначы. У сярэдзіне 80-х вярнуўся ў Беларусь і вучыўся ў ад'юнктуры ВІЗРУ. Палітыкай пачаў займацца з 1989 года пад уплывам Курапацкай справы, а таксама твораў Караткевіча, Тарасава, якія падштурхнулі яго да больш дасканалага вывучэння гісторыі Беларусі. Тады ж разам з групай вайскоўцаў пачаў займацца распрацоўкай канцэпцыі беларускага войска. Быў сярод ініцыятараў і заснавальнікаў Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады. За ўдзел у шматлікіх палітычных акцыях быў звольнены з арміі "за дискредитацию высокого звания офицера"... Падчас прэзідэнцкай выбарчай кампаніі, калі фракцыя Грамады адазвала свае подпісы за Генадзя Карпенку, пакінуў пасаду старшыні выканкома партыі. Быў старшынёй Беларускага згуртавання вайскоўцаў. Міколу Статкевіча запрасілі ўзначаліць Беларускую сацыял-дэмакратычную Грамаду. З першых дзён на гэтай пасадзе займаўся кансалідацыяй дэмакратычных сіл і за год сваёй дзейнасці шмат для гэтага зрабіў. Напярэдадні парламенцкіх выбараў быў утвораны першы ў Беларусі дэмакратычны блок, куды акрамя Грамады ўвайшлі Партыя народнай згоды і Усебеларуская партыя адзінства і згоды, а трошкі пазней Партыя працы. Пасля выбараў у парламенце была ўтворана сацыял-дэмакратычная фракцыя з 17 чалавек. Апошні вынік кансалідацыі -- утварэнне 29 чэрвеня Сацыял-дэмакратычнага саюза на падставе дзвюх партый -- Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады і Партыі народнай згоды.***

**-- Спадар Статкевіч, аб'яднальны сход Грамады і ПНЗ і ўтварэнне Сацыял-дэмакратычнага саюза выклікалі ў грамадстве рознагалоссі. Пакуль адны звязваюць з саюзам пэўныя спадзяванні, іншыя абвінавачваюць вас у згодніцтве з цяперашнім рэжымам і расколе дэмакратычных руху.**

-- Калі казаць пра гэта вельмі коратка, дык тут варта прыгадаць словы вядомага ў Беларусі палітыка, цяпер у замежжы. (Дарэчы, можа якраз яго вы маеце на ўвазе, калі кажаце пра "іншых"). Дык вось менавіта ён сказаў, што дурны заўсёды шукае ворагаў, а разумны -- сяброў.

**-- Хацелася б усё ж, каб вы спыніліся на гэтым трошкі падрабязней.**

-- Ведаеце, мяне вельмі засмучае дылетанцкі падыход у палітыцы. Цяперашнюю пэўную ізаляцыю беларускіх дэмакратаў можна патлумачыць толькі тым, што дагэтуль яны так і не навучыліся працаваць прафесійна. Палітык -- гэта звычайная прафесія, і ёй трэба вучыцца, авалодваць пэўнымі навыкамі і рабіць высновы з памылак. Доўгі час мы толькі і рабілі, што адштурхоўвалі, а не прыцягвалі да сябе прыхільнікаў: адзін не падыходзіў, бо размаўляў не на той мове, другі -- па іншых меркаваннях. Менавіта ў гэтым я бачу галоўную прычыну ўсіх паразаў -- расколу беларускіх дэмакратаў.

(Заканчэнне на 4-й стар.).

## ПАШТОЎКА З БЕЛАРУСІ



Куток старых Баранавічаў.

Фота Эдуарда КАБЯКА.

## *НАТАТКІ З ВЫСТАВЫ "У СУГУЧЧЫ КУЛЬТУР (КУПАЛА І РАЙНІС)"*



# НА ШЛЯХАХ СПАРАДНЕННЯ

Усталяванню прыязных адносінаў нашай краіны з суседнімі спрыяюць кантакты не толькі нашых дзяржаўных дзеячаў, але і ўстановаў культуры, грамадскіх арганізацый. У народнай дыпламатыі ўдзельнічаюць і школьнікі. Да прыкладу, школа N 11 горада Мінска сябруе з школай N 3 горада Даўгаўпілса. Нядаўна мінчане прымалі сваіх сяброў-аднагодкаў з Латвіі. А зараз самі збіраюцца ў дарогу, вывучаюць гісторыю, культуру, літаратуру суседняй дзяржавы. І ў гэтым ім дапамагаюць своеасаблівыя ўрокі ў школьным клубе "Спадчына", які ўзначальвае Ганна Сасноўская. Ёю была распрацавана культурна-асветная тэма пад назваю "Шляхі спараднення". Якраз на выставе ў музеі Янкі Купалы і можна на свае вочы ўбачыць вось гэтыя сімвалічныя "шляхі спараднення".

(Заканчэнне на 7-й стар.).

## ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*СУСТРЭЧА МІНІСТРАЎ*



20 ліпеня 1996 года ў Брэсце па ініцыятыве міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь адбылася трохбаковая рабочая сустрэча міністраў замежных спраў Беларусі -- Уладзіміра Сянько, Польшчы -- Дарыуша Расаці і Украіны -- Генадзя Удавенкі.

Міністры абмеркавалі праблемы супрацоўніцтва ў рамках так званага "трансмежнага саюза" "Еўрарэгіён Буг". Асноўнай мэтай гэтага праекта з'яўляецца супрацоўніцтва трох дзяржаў у эканамічнай, культурнай, гуманітарнай, навуковай, прыродаахоўчай і іншых сферах.

На сустрэчы абмяркоўваліся таксама праблемы еўрапейскай бяспекі.

НА ЗДЫМКУ: у час сустрэчы.

*ПАЛЕМІКА*

### СУПРАЦЬ НАВЕШВАННЯ ЯРЛЫКОЎ

"Вялікую заклапочанасць выклікае нездаровая атмасфера, якая апошнім часам актыўна ствараецца вакол развіцця гістарычнай навукі, адукацыі і асветніцтва ў галіне гісторыі Беларусі. Узнікае ўражанне спланаванай і скаардынаванай акцыі, якая з выкарыстаннем сродкаў масавай інфармацыі мае на мэце прыпыніць працэс вызвалення навуковага пошуку ад догмаў і стэрэатыпаў, што панавалі ў гістарычнай навуцы да нядаўняга часу, паставіць яго ў жорсткія бюракратычна-адміністрацыйныя рамкі".

Гэта радкі з "Заявы Рады Беларускай асацыяцыі гісторыкаў", якая была апублікавана ў "Народнай газеце" ў адказ на "Адкрытае пісьмо Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь" групы таксама гісторыкаў, але ўжо іншай арыентацыі. Аўтары заявы, а іх вялізны спіс, заяўляюць рашучы пратэст супраць навешвання ярлыкоў накшталт "русофобии", "пробзяэфовской направленности", "национал-экстремистов" у адрас вучоных-гісторыкаў, інсінуацыі -- абвінавачвання ўсяго калектыву Інстытута гісторыі АНБ у нейкім "сабатажы" працы над "Энцыклапедыяй гісторыі Беларусі" і універсальнай "Беларускай Энцыклапедыяй".

* * *

Супраць тэндэнцый учарашняга дня, выкладзеных аўтарамі адкрытага пісьма Прэзідэнту, выступіла і вялікая група акадэмікаў, дэпутатаў Вярхоўнага Савета, пісьменнікаў, прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый Беларусі. "Адкрытае пісьмо сведчыць аб імкненні тых, хто яго падпісаў, законсерваваць гісторыю Беларусі на ўзроўні даўніх, старых уяўленняў і канцэпцый, -- гаворыцца ў іх заяве, апублікаванай у прэсе, -- у той час, як гісторыкі Расіі, Украіны, Польшчы, іншых суседніх і больш аддаленых краін рашуча ідуць наперад у асэнсаванні гістарычных працэсаў. Пра гэта сведчаць іх публікацыі. Дык няўжо гістарычнай навуцы Рэспублікі Беларусь так і суджана быць на задворках еўрапейскай цывілізацыі, таптацца на месцы, здавальняючыся старымі, аджыўшымі канцэпцыямі!"

*ПАСЛЯ АДСТРЭЛУ*

### ПАЛЯВАННЕ НА ВАЎКА

Рэспубліканская камісія падвяла вынікі конкурсу сярод паляўнічых, якія палявалі ў 1995 годзе на ваўкоў. Першае месца прысуджана брыгадзе С. Заікіна з Гарадоцкай паляўнічай гаспадаркі, якая знішчыла 34 дарослыя ваўкі. На два ваўкі менш здабыла брыгада В. Васіленкі з Нараўлян. На трэцім месцы брыгада В. Траццякова з Расонскага раёна -- 23 дарослыя драпежнікі і 5 ваўчанят.

Сярод асобных паляўнічых вызначыўся В. Хобна з Петрыкаўскага раёна. Яму пашанцавала забіць 21 ваўчаня, 10 дарослых ваўкоў застрэліў паляўнічы з Івацэвічаў Н. Лобка. Трэцяе месца аддадзена паляўнічаму з Гарадка В. Якушэвічу. На яго "баявым" рахунку 6 забітых дарослых ваўкоў, 3 самкі і 1 ваўчаня.

Напэўна, для нашага замежнага чытача такая інфармацыя мае негуманны прысмак, але справа ў тым, што ў Беларусі развялося зашмат ваўкоў і яны наносяць многа шкоды гаспадаркам.

*ПРАВІНЦЫЯЛЬНЫ КУР'ЕР*

### ГУЧЫЦЬ ЯЕ ЛІРА НАНАВА

У Шчучынскім раёне шырока адзначаны 120-я ўгодкі Цёткі (Алаізы Пашкевіч). Юбілейныя ўрачыстасці пачаліся ў дзень нараджэння паэткі-рэвалюцыянеркі ў гарадскім пасёлку Астрына. Многія паклоннікі пісьменніцы пабывалі ў яе музеі ў мясцовай школе, якая носіць імя любімай Пашкевічанкі. Затым яны накіраваліся ў вёску Стары Двор, дзе пры гасцінцы пахавана знакамітая зямлячка. Да надмагільнага помніка былі ўскладзены жывыя кветкі, побач з месцам яе вечнага спачыну адбыўся мітынг-успамін.

Хвалюючая і шматлюдная сустрэча, прысвечаная памяці Цёткі, прайшла праз некалькі дзён у раённым Доме культуры. Шчырыя словы пра Алаізу Пашкевіч сказалі пісьменнікі Валянціна Коўтун, Анатоль Вярцінскі, Уладзімір Паўлаў, Ірына Багдановіч, Пётр Васючэнка, Алесь Пісьмянкоў, навукоўцы з Мінска і Гродна. Прамоўцы ўслаўлялі Цётку не толькі як таленавітую паэтку, а як адну з пачынальнікаў нацыянальнай мастацкай прозы, асветніцу і педагога, грамадскага дзеяча і самаахвярнага медыка.

Заключным акордам урачыстасцей сталі адкрыццё ў Шчучыне скульптурнага помніка Цёткі і ўшанаванне пераможцаў творчых конкурсаў, праведзеных з нагоды юбілею. Дарэчы, у іх прынялі ўдзел не толькі калектывы і многія жыхары раёна, а і прыхільнікі творчасці паэтэсы з іншых месцаў. Напрыклад, вучні СШ N 1 г. Гродна, сярэдняй школы мястэчка Азёры і інш.

### ПРЭЗЕНТАЦЫЯ КНІГІ ПЕСЕНЬ

Гэту кнігу беларускіх народных песень, выдадзеную ў Варшаве, моцна палюбілі вядомы наш фалькларыст Васіль Ліцвінка і гродзенскі навуковец Сяргей Габрусевіч, рабочыя і сяляне, усе прыхільнікі народнай творчасці беларусаў. Размова ідзе аб песенным зборніку "Цёплыя вечары ды халодныя ранкі..."

Шмат гадоў працаваў, рыхтуючы унікальнае выданне, вядомы польскі літаратар Земавіт Фядэцкі. Ураджэнец лідскай зямлі, пан Земавіт правёў свае юнацкія гады ў беларускім асяроддзі, палюбіў нашы песні, збяроґ іх для нашчадкаў. І вось у Лідзе, у перапоўненай зале гарадскога Дома культуры, адбылася вечарына-прэзентацыя кнігі песень, якія наш варшаўскі сябра калісьці запісаў у Фeліксаве і навакольных вёсках. Шчырыя словы ўдзячнасці выказалі З. Фядэцкаму старшыні Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны -- Міхась Мельнік, Таварыства беларускай школы -- Аляксандр Сокал. Дарэчы, па ініцыятыве гэтых арганізацый і адбылася названая сустрэча. А канцэрт, асновай якога сталі творы песеннага зборніка, падрыхтавалі і на высокім узроўні выступілі самадзейныя артысты ансамбля народнай музыкі "Вярбіна". Вялікая заслуга ў тым, што вечарына стала сапраўдным святам беларускага фальклору, належыць дырэктару мясцовага музвучылішча Мар'яну Баяровічу, выкладчыкам гэтай установы Тамары Харашылавай і Алене Сечка.

Земавіт Фядэцкі, вельмі крануты ўбачаным і пачутым, цёпла падзякаваў лідчанам за цудоўную сустрэчу і падарыў ім аўтографы.

Алесь ЖАЛКОЎСКІ.

*З ЗАЛЫ СУДА*



Пра "веткаўскага рабінзона" Аркадзя Набокіна "Голас Радзімы" расказваў. У мінулым настаўнік, было яму 83 гады. Усё сваё жыццё ён пражыў у вёсцы Пабужжа Веткаўскага раёна. Не пакінуў яе і пасля Чарнобыля. Жыў адзін, займаўся жывёлагадоўляй, утрымліваў 20 быкоў. Працаваў і жыў, як хацеў. Але яго больш няма. Старога забілі палкамі нелюдзі, каб забраць жывёлу.

Нядаўна ў Гомельскім абласным судзе скончыўся працэс над забойцамі, якія вызначылі ім меру пакарання -- 15 гадоў пазбаўлення волі дваім удзельнікам злачынства і 8 гадоў -- трэцяму.

НА ЗДЫМКУ: у судзе ў час вызначэння пакарання.

*ПАДПІСАНЫ ДАКУМЕНТ*

### АМЕРЫКА ДАПАМОЖА

18 ліпеня ў Мінску адбылося падпісанне двухбаковага пагаднення паміж Злучанымі Штатамі Амерыкі і Беларуссю аб дапамозе, якое юрыдычна вызначае механізм яе аказання з боку ЗША.

Дакумент забяспечыць больш лёгкую працэдуру дастаўкі і бяспошліннага ўвозу ўсіх відаў прадукцыі, у прыватнасці, харчавання, медыцынскіх прэпаратаў, тэхналагічнага абсталявання, якія прадастаўляюцца ў якасці дапамогі. Пагадненне прадугледжвае вызваленне ад уплаты ў Беларусі падаходнага падатку тых грамадзян ЗША і іншых замежных дзяржаў, якія заняты ў сферы прадастаўлення амерыканскай дапамогі. Калі інспекцыйнымі групамі ЗША будзе ўстаноўлена, што дапамога трапіла не па прызначэнню, урад Беларусі будзе абавязаны кампенсаваць яе кошт ЗША. Дакумент быў падпісаны паслом ЗША ў Беларусі Кенетам Ялавіцам і міністрам знешніх эканамічных сувязей Рэспублікі Беларусь Міхаілам Марыничам.

*"БЕЛАЯ ЛІЛЕЯ"*



"Белая Лілея" -- так называецца калекцыя летняга жаночага адзення Бабруйскай фабрыкі мастацкіх вырабаў. Акрамя эфектных беласнежных тонаў, у ім выкарыстаны традыцыйныя беларускія прыёмы, а пры аздабленні -- ручная праца.

НА ЗДЫМКУ: Ірына ПАЎЛАВА і Вольга ДАНІЛЕВІЧ ва ўборах "Белай Лілеі".

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

КАЛЯ вёскі Высокае Аршанскага раёна на аўтамагістралі Брэст--Масква адкрыта новая аўтазаправачная станцыя. Будаўніцтва яе каштавала 9 мільярдаў рублёў. Затое станцыя адпавядае сусветным стандартам.

АСІПОВІЦКІ камбінат надомнай працы выконвае, і з поспехам, заказы дацкіх фірмаў "Максют", "Інвайшэн" і "Асілгрупэн". Самы ганаровы з іх -- выпуск дзяржаўнай сімволікі -- сцягоў і вымпелаў Дацкага каралеўства.

САМЫ нізкі заробак у работнікаў культуры Беларусі. За 1995 год ён склаў усяго 510 тысяч рублёў.

ЗА ПЯЦЬ апошніх гадоў спынілі сваё існаванне 865 масавых бібліятэк Беларусі. Закрыліся таксама 977 клубаў, перасталі дзейнічаць 3 136 кінаўстановак.

РЭАЛЬНЫЯ даходы насельніцтва Беларусі па выніках першага квартала 1996 года скараціліся на 3 працэнты. Заработная плата ўзрасла на 2 працэнты.

СЛАВА Беларусі -- лён сёння не ў пашане. Яго пасевы скараціліся больш чым у два разы -- з 207 тысяч гектараў у 1987 годзе да 80 тысяч -- у 1996-м.

АРНІТОЛАГІ Віцебскага дзяржаўнага універсітэта завяршылі падрыхтоўку кадастра рэдкіх птушак і тых, што знаходзяцца пад пагрозай знішчэння. Ён уключае ў сябе матэрыялы аб 56 асобінах і рэкамендацыі па забеспячэнню іх аховы ў 576 месцах знаходжання.

НА САЦЫЯЛЬНЫЯ патрэбы горада ў Брэсце на першую палавіну года выдзелена з мясцовага бюджэту каля 60 мільярдаў рублёў. Адна з самых пільных -- будаўніцтва начлежак для бяздомных, колькасць якіх няспынна расце.

ЗАПАЗЫЧАНАСЦЬ прадпрыемствам Беларусі за тавары, працу і паслугі іх партнёраў з краін СНД і Балтыі на пачатак чэрвеня 1996 года склала 5,1 трыльёна рублёў. Наша ж запазычанасць ім -- 9,8 трыльёна рублёў. У агульнай суме даўгоў Беларусі Расіі газ складае 73,7 працэнта.

ПА ВЫНІКАХ работы народнай гаспадаркі Беларусі ў першым паўгоддзі 1996 года на долю дзяржаўнай уласнасці прыходзілася 70,5 працэнта агульнага аб'ёму вытворчасці прамысловай прадукцыі. На недзяржаўную прыпадае 29,5 працэнта.

У КАПЫЛЬСКІМ раёне ўсяго 22 фермеры, палова з іх -- гараджане. Іх "абшары" займаюць 206 гектараў, якія апрацоўваюць 16 трактароў, 2 камбайны ды 3 аўтамашыны.

*ДА ТАГО, ШТО БЫЛО АПУБЛІКАВАНА*

# "НЕ ВЕР ДРЭННАМУ ПРА МЯНЕ"

25 чэрвеня 1938 года на імя сакратара ЦК КП(б)Б П. Панамарэнкі была накіравана дакладная запіска "Аб варожай дзейнасці ў НК асветы і засмечанасці настаўніцкіх кадраў" за подпісам наркома ўнутраных спраў БССР А. Наседкіна. У ёй адзначалася, што "назначаны восенню 1937 г. наркам асветы Півавараў не толькі не прыняў меры да ліквідацыі вынікаў шкодніцтва ў НК асветы, а праводзіў тыя ж нацдэмаўскія лініі ў працы" (мелася на ўвазе тыя ж, што і папярэднія наркомы). У матэрыялах адзначалася таксама, што У. Півавараў з'яўляецца ўдзельнікам антысавецкай арганізацыі "Саюз вызвалення Беларусі", больш таго, што ён быццам бы стаяў на чале яе ў Акадэміі навук БССР.

Абвінавачванні У. Піваварава стандартныя: не ачысціў Народны камісарыят асветы ад нацдэмаў, не кіраваў працай педагагічных ВНУ, у выніку чаго аспірантура ў іх засмечана асобамі, што не выклікаюць даверу, кадры настаўнікаў таксама засмечаны варожымі асобамі і г. д. Вынік усіх абвінавачванняў быў адзіны -- 2 ліпеня 1938 года У. Півавараў арыштаваны НКУС як удзельнік антысавецкай праватрацкісцкай арганізацыі. Разам з ім па такому ж сфабрыкаванаму абвінавачванню органы НКУС прыцягнулі яшчэ 16 чалавек. У іх ліку А. Ананьеў -- другі сакратар ЦК КП(б)Б, В. Патапейка -- начальнік упраўлення па справах мастацтва пры СНК БССР, А. Кавалёў -- старшыня аргкамітэта Вярхоўнага Савета БССР па Мінскай вобласці, М. Стакун -- былы старшыня ЦВК БССР і іншыя.

Ва ўсіх у час арышту праводзіўся вобыск і забіраўся ўвесь асабісты архіў. З дакументаў У. Піваварава "крамольнымі" былі прызнаны 4 маленькія блакнотныя лісткі з выпіскамі з працы Л. Троцкага "Нашы палітычныя задачы", якая была выдадзена дзяржаўным выдавецтвам у 1928 годзе і ўжо даўно занесена ў лік контррэвалюцыйных. Для караючых органаў абвінавачваннем быў ужо сам факт чытання гэтай кнігі, не кажучы ўжо аб той фразе, якая асабліва выдзялалася сярод іншых і была падкрэслена следчым: "Ленінізм нясе ў сабе залог непазбежнага і пры гэтым скорага разлажэння". Гэтыя маленькія лісты гаварылі ўсяго толькі аб тым, што іх уладальнік з'яўляецца думаючай і аналізуючай падзеі асобай, аднак у следчай справе яны фігуравалі як "контррэвалюцыйныя запіскі на 4-х старонках".

Тыя дакументы, якія не цікавілі следчых, асобай пастановай падлягалі спаленню. У выніку спалены асабісты архіў У. Піваварава склаў 710 старонак, А. Ананьева -- даклады і выступленні на 570 старонках, фотаздымкі і кнігі, асабістая і службовая перапіска на 215 старонках, В. Патапейкі -- архіўныя матэрыялы, у тым ліку вершы, артыкулы, асабістая перапіска на 419 старонках і г. д. Таму становіцца зразумелым беззваротнае знікненне літаратурных тво-



раў, навуковых прац і іншых матэрыялаў шмат якіх таленавітых людзей, рэпрэсіраваных у гады савецкай улады.

Следства па справе У. Піваварава вялося звычайнымі для таго часу метадамі. Бясконцыя допыты, якія пачыналіся пасля поўначы, рабілі сваю жудасную справу. Арыштаваных цяжка было пазнаць. А. Кавалёў у сваёй кнізе "Колакал мой -- праўда" напісаў аб очнай стаўцы яго і У. Піваварава на адным з допытаў. "Увялі Піваварава — былога наркома асветы БССР. Яго арыштавалі раней за мяне і так "адпрацавалі", што калі б не было названа яго прозвішча, я б яго не пазнаў: жывы шкілет з запалёнымі вачыма. Галава ўцягнута ў прыпаднятыя плечы. Ён з цяжкасцю перасоўваў ногі... Мяне ўразіў выгляд гэтага чалавека, якога я ведаў здаровым, жыццярадасным і зусім маладым. Зараз перада мною сядзеў хворы стары, у душы якога ўсё патухла, і знікла тая сіла, якая можа кіраваць... Як скалечылі яго маральна і фізічна! Яму было ўсё роўна, што гаварыць і як гаварыць. Толькі б не білі, не здзекаваліся".

У час здзекаў патрабавалі называць усё новыя прозвішчы сяброў, калег па рабоце, проста знаёмых. Запісаныя часта самімі следчымі ў пратакол допыту, яны ўжо кваліфікаваліся як саўдзельнікі абвінавачваемага. Такім чынам, справа абрастала новымі "шкоднікамі". Усяго па справе разам з У. Піваваравым праходзіла 174 чалавекі. Усе яны прадстаўнікі інтэлігенцыі і служачыя -- партыйныя і савецкія працаўнікі, настаўнікі, выкладчыкі, навукоўцы, пісьменнікі, вайскоўцы. Па шчасцю, 157 чалавек з іх не былі асуджаны, а следства па іх спынена з-за недастатковасці доказаў. Сярод гэтых людзей -- Я. Купала, Я. Колас, М. Лынькоў, Э. Бядуля, П. Галавач і іншыя. Пасля папярэдняга следства астатніх 17 чалавек, а сярод іх і У. Піваварава, перавялі ў Бутырскую турму, дзе яны павінны былі чакаць закрытага паседжання... лючнага суда. 10 ліпеня 1939 года на пасяджэнні Вярхоўнага суда СССР усім 17 было вынесена папярэдняе абвінавачванне ў контррэвалюцыйнай дзейнасці па розных артыкулах -- 69, 22--70, 24--70, 76 КК БССР.

Калі У. Півавараў азнаёміўся пад распіску з рашэннем суда, ён пад абвінавачваннем напісаў: "Паколькі я ні ў чым не вінаваты, сяджу ў турме з-за паклёпу, прашу даць мне 1 -- абаронцу, 2 -- выклікаць сведкаў з волі, а таксама некаторых арыштаваных, якіх я пад катаваннямі абгаварыў... Прашу даць мне паперу, на якой я меў бы магчымасць падрабязна апісаць усе катаванні, якія я перанёс, паказаць паклёпніцкі характар суда і прыкласці ўсе мае заявы...".

Яго, як і астатніх зняволеных, не пакідала надзея, што тут, у Маскве, можна дабіцца справядлівасці, і 2 лютага ён звярнуўся ў камісію партыйнага кантролю з лістом, у якім адзначаў, што ўжо 20-ты месяц знаходзіцца ў турме, у той час, калі ні ў чым не вінаваты. Ён пісаў, што маральныя і фізічныя катаванні следчых Быхаўскага і Годзіна даводзілі яго да таго, што смерць здавалася шчасцем. У такім стане яны прымушалі падпісваць дакументы, у якіх ён узвёў паклёп на сябе і на іншых чэсных людзей. Усведамленне віны перад імі не давала Уладзіміру Іванавічу спакою, і ён ва ўсіх сваіх заявах настойліва патрабуе зноў дапытаць тых, чые прозвішчы ён называў, каб пераканацца ў яго і іх невінаватасці.

Ён быў не адзінокі ў барацьбе за сваё чэснае імя. Разам з ім аб пераглядзе следчай справы хадайнічала і яго жонка Яўгенія Іванаўна. У сакавіку 1940 года яна звяртаецца ў Ваенную калегію Вярхоўнага суда СССР з просьбай дапусціць абаронцу з юрыдычнай калегіі для азнаямлення з матэрыяламі справы, каб выкарыстаць усё магчымае для апраўдання мужа. Аднак усе іх звароты засталіся без увагі.

Каля года ізалявана адзін ад аднаго зняволеныя ўтрымліваліся ў Бутырцы, і толькі 27 мая 1940 года на закрытым пасяджэнні Вярхоўнага суда СССР пачалося слуханне іх справы, а 29 мая ім вынеслі прыгавор: 11 чалавек былі прызнаны ўдзельнікамі антысавецкай праватрацкісцкай арганізацыі, якая быццам бы дзейнічала на тэрыторыі БССР і ставіла мэтай аб'яднанне антысавецкіх элементаў для барацьбы супраць ВКП(б) і савецкай улады, праводзіла шкодніцкую працу ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі і культуры БССР. Усе яны атрымалі розныя тэрміны зняволення -- ад 20 да 2-х гадоў у папраўча-працоўных лагерах. У. Півавараў быў прыгавораны да 15 гадоў зняволення ППЛ. Астатніх 6 чалавек суд апраўдаў, аднак вызваленне іх так і не адбылося. Тры гады яны ўтрымліваліся ў турме, а 29 ліпеня 1943 года Пленум Вярхоўнага суда СССР апраўдальны прыгавор адмяніў і справы іх вярнуў на новы разгляд. 1 сакавіка 1944 года Асобая нарада пры НКУС СССР усё ж прызнала іх вінаватымі і асудзіла на розныя тэрміны зняволення.

У. Півавараў пасля прыгавора атрымаў магчымасць сустрэцца з жонкай. Яўгенія Іванаўна паехала ў Маскву і дабілася спаткання з мужам у Бутырскай турме. Падрабязнасці яго яна запомніла на ўсё жыццё. "Усё спатканне цягнулася хвілін 20, не больш. Паспела пачуць аб судовым прыгаворы -- 15 год строгага рэжыму лагераў без права абскарджання і перапіскі з сям'ёй. І яшчэ ён паспеў у вялікім шуме сказаць: "Не вер, Жэня, што на мяне могуць нагаворваць. Шмат разоў мяне збівалі да непрытомнасці і іншых таксама, а калі апрытомнеў -- катаванні працягвалі зноў. Допыты цягнуліся па шмат гадзін, прымушалі стаяць, а сілы не было. У мяне толькі з сакавіка 1939 года пачалі расці новыя пазногці на пальцах..." Званок перарваў нашу сустрэчу". З таго часу сям'я не атрымала аб У. Півавараве ніякіх звестак, нягледзячы на ўсе намаганні родных адшукаць яго.

Па ўспамінах дачкі У. Піваварава, "толькі вясной 1955 года мы атрымалі даведку аб рэабілітацыі і даведку аб смерці. І толькі ў 80-я гады нам удалося шляхам перапіскі і асабістых кантактаў з органамі даведацца пра апошнія крокі нашага бацькі на зямлі. Мы былі на месцы лагпункта "Лесарэйд" каля сяла Усць-Уса Комі АСС. Менавіта тут, па дакументах, ён працаваў лесасекам і памёр 29 жніўня 1941 года ад паралічу сэрца. Захавання няма".

Аднак шлейф хлусні аб лёсах, смерці рэпрэсіраваных цягнуўся доўгія гады пасля іх рэабілітацыі. Толькі дзякуючы настойлівым пошукам звестак аб тых трагічных падзеях раскрываецца праўда. Смерць У. Піваварава была іншай. Гэта ўдалося ўстанавіць гісторыку І. Кузняцову і апублікаваць у вышэйназваным артыкуле на старонках нашай газеты.

Лагер "Лесарэйд", у якім адбываў пакаранне У. Півавараў, быў невялікі -- 193 зняволеныя, і асноўная частка з іх -- асуджаныя па палітычных матывах. Менавіта сярод іх знайшліся арганізатары і кіраўнікі паўстання зняволеных. Адным з іх з'яўляўся У. Півавараў. Даведзеныя да адчаю людзі падняліся супраць бесчалавечнага лагернага рэжыму і павольнага ўмірання. Паўстанне пачалося 24 студзеня 1942 года. У ім прынялі ўдзел 109 чалавек. Цяжка сказаць, як знясіленыя вязні ў лютыя маразы, з невялікай колькасцю зброі збіраліся процістаяць ахове і часцям НКУС. І ўсё ж паўстанцы пратрымаліся некалькі дзён. Тыя, хто застаўся ў жывых, былі захоплены і перапраўлены ў Сыктыўкарскую турму. Сярод іх знаходзіўся і У. Півавараў. Следства вялося на працягу двух месяцаў, і 30 сакавіка 1943 года пастановай Асобага пасяджэння пры НКУС СССР 26 удзельнікаў паўстання, у тым ліку і У. Півавараў, былі прыгавораны да расстрэлу і пакараны.

Усё той жа Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР, толькі ў іншым складзе і ў другі час — 25 снежня 1954 года, У. Півавараў рэабілітаваны пасмяротна.

**Нона ВАСІЛЕЎСКАЯ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

**НА ЗДЫМКУ: У. ПІВАВАРАЎ у час допыту.**

**Заканчэнне.**
**Пачатак у N 30.**

*ПА ЧУЖЫХ СТАРОНКАХ*

# РАСІЯ НЕ СПЯШАЕЦЦА РАССТАВАЦЦА З НАШЫМІ ДАЎГАМІ

Ці паўплывае паўторнае выбранне Барыса Ельцына Прэзідэнтам Расіі на лёс славутага палітычнага дасягнення яго беларускага калегі -- падпісанага 27 лютага пагаднення аб "нулявым варыянце"? Пытанне асабліва актуальнае, напрыклад, на фоне энергетычнага крызісу, што выбухнуў у расійскім Прымор'і.

Спачатку ўсім было ясна: да выбараў у Расіі нашы даўгі не будуць спісаны. Так яно і было. Міністэрства фінансаў Беларусі выпусціла вэксаль на суму 916 913 134 долары ЗША ў кошт пагашэння запазычанасці Беларусі перад "Газпромам" і яшчэ адзін на суму 470 809 430 долараў, роўную доўгу Беларусі перад Расіяй па міжурадавых крэдытах за 1992--1995 гады. Аднак яны своечасова не прымаліся расійскім бокам, і нашаму Мінфіну давялося тройчы перааформляць гэтыя вэксалі (тэрмін спачатку да 25 сакавіка, потым — да 1 мая і да 15 мая). Пры гэтым кожныя новыя вэксалі акуратна перадаваліся на захоўванне ў пасольства Беларусі ў Маскве са зняццем раней перададзеных.

Расія ж спасылалася тады на "неўрэгуляванасць працэдур пагашэння даўгавых абавязацельстваў". Міністэрства фінансаў Расіі да гэтага часу пацвярджае, праўда, у вуснай форме, што пытанне будзе ўрэгулявана. Тым часам "Газпром" прыслаў у пачатку чэрвеня беларускі вэксаль назад з ветлівай прапановай перааформіць яго на суму, меншую на 11,9 мільёна долараў. Акрамя таго, на думку "Газпрома", выпушчаны Мінфінам Беларусі вэксаль не адпавядае нормам міжнароднага вэксальнага права, а таму не можа быць прыняты.

Па апошніх звестках, цяпер павінны афармляцца чарговыя вэксалі, якія адпавядаюць сусветным стандартам і прымальныя для "Газпрома", форму якіх прадаставіць расійскі бок.

Абмеркаванне дэталей, што зацягнулася на некалькі месяцаў, у афармленні вэксаляў, а таксама працэдур урэгулявання даўгавых абавязацельстваў да выбараў у Расіі можна было растлумачыць цалкам відавочнымі палітычнымі меркаваннямі тыпу "падтрымай, ці прайграеш", хаця ў Мінску такое прамаруджванне было яўна незразумета і сустрэта амаль ці не з крыўдай і надзеяй на тое, што іншыя расійскія палітыкі змогуць хутчэй спісаць даўгі брацкай рэспубліцы.

Менавіта ў сувязі з гэтым і ўзнікае сумненне, што Ельцын цяпер будзе садзейнічаць паскарэнню рэалізацыі "нулявога варыянта".

Відавочна і іншае: расійскі бок, што называецца, не ведае, як кампенсаваць "Газпрому" нашы даўгі. І без таго мізэрны расійскі дзяржбюджэт, натуральна, не ў стане вытрымаць гэтыя расходы (якія да таго ж не прадугледжаны законам аб бюджэце). Па інфармацыі, што маецца на сённяшні дзень, як адзін з варыянтаў Мінфін Расіі разглядае магчымасць прадастаўлення "Газпрому" падатковых ільгот на суму беларускага доўгу.

Па крайняй меры, беларускі бок па-ранейшаму запэўніваюць, што падпісанае прэзідэнтам у канцы лютага пагадненне прынята да выканання, і таму наўрад ці ёсць сур'ёзныя падставы сумнявацца, ці было падпісана славутае пагадненне ўвогуле.

Калі паспрабаваць адкінуць палітычныя фактары, якія ў далейшым могуць паўплываць на рэалізацыю "нулявога варыянта", то можна меркаваць, што расходы па спісанню беларускіх даўгоў могуць быць прадугледжаны ў расійскім бюджэце на наступны фінансавы год. Акрамя таго, можна ў рэшце рэшт расцягнуць гэтыя выплаты на некалькі гадоў. Ці адбудзецца гэта, стане ясна на працягу бліжэйшых двух-трох месяцаў, паколькі ў Расіі распрацоўваюць і зацвярджаюць бюджэт больш дысцыплінавана, чым у нас.

У любым выпадку афіцыйная Масква зусім не зацікаўлена ў паскарэнні рэалізацыі "нулявога варыянта". Мала таго, што няма лішніх грошай: пакуль данае пагадненне застаецца на паперы, яно з'яўляецца козырам у руках кіраўніцтва Расіі (прычым як у адносінах з нашымі, так і са сваімі палітыкамі). Ці мала калі яшчэ спатрэбіцца.

**Алена ЛАЗАРЧУК.**
*("Белорусский рынок").*



**У 1910 годзе флатыліяй па Дняпру з Кіева ў Оршу, а затым у Полацк перавозіліся святыя мошчы Ефрасінні Полацкай. У Рэчыцы ў тыя дні быў зроблены прыпынак. На гэтым месцы пачалося будаўніцтва царквы Ефрасінні Полацкай. А ў 1912 годзе, калі асвячалася пабудаваная царква, прынеслі ў храм для хрышчэння новаанароджаную. Дзяўчынку ў гонар асвячэння царквы і назвалі тады Ефрасінняй.**

**У 30-я гады царква ў Рэчыцы была разбурана. Паспела тады ўжо дарослая дзяўчына Ефрасіння Аўсяннікава выратаваць царкоўныя іконы і захаваць іх. Усё спадзявалася яна на ўзнаўленне царквы. Так і здарылася, праўда, праз 60 гадоў.**

**Адбудавалі царкву Ефрасінні Полацкай непадалёку ад ранейшага месца два гады назад. Ды вось толькі не паспела Ефрасіння Аўсяннікава перанесці іконы ў новую царкву. Ужо і работы будаўнічыя заканчваліся, калі ў дом да Ефрасінні Аўсяннікавай залезлі злодзеі. Іконы зніклі. Але тое-сёе з царкоўных прылад ацалела. І яна занесла гэта ў новую царкву. У царкве Ефрасіння бывае вельмі часта.**

**НА ЗДЫМКАХ: Ефрасіння АЎСЯННІКАВА ля новай царквы Ефрасінні Полацкай у вёсцы Азершчына; на месцы часовага прыпынку святыні па дарозе ў Полацк у Рэчыцы пабудаваны велічны помнік -- капліца Ефрасінні Полацкай.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**



## Мікола СТАТКЕВІЧ:

# "Я ГАТОВЫ СУПРАЦОЎНІЧАЦЬ З УСІМІ, ХТО ПАДТРЫМЛІВАЕ І ПРАЦУЕ НА СУВЕРЭНІТЭТ КРАІНЫ І КАШТОЎНАСЦІ ДЭМАКРАТЫІ"

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Вось чаму, калі мне даручылі кіраваць Сацыял-дэмакратычнай Грамадой, я адразу пачаў працаваць над кансалідацыяй дэмакратычных сіл. Ідэі сацыяльнай дэмакратыі -- гэта мае ўласныя глыбокія ідэалагічныя перакананні, вельмі даўнія. Але я добра разумею, што сёння, калі краіна ў заняпадзе, выцягнуць яе з гэтай багны можна толькі, узяўшыся ўсім разам. Таму для аб'яднання мы не выстаўляем умовы чыста сацыяльнай дэмакратыі, а вызначылі два галоўныя фактары -- дзяржаўнасць і дэмакратыя. Сёння, калі гаворка ідзе пра страту гэтага ўнікальнага шанцу, які падарвала гісторыя Беларусі, я гатовы супрацоўнічаць з любым, хто падтрымлівае і працуе на суверэнітэт краіны і каштоўнасці дэмакратыі. У Партыі народнай згоды, з якой мы аб'ядналіся, праграма вельмі блізкая да сацыял-дэмакратычнай. Больш таго, там шмат сапраўдных патрыётаў Беларусі.

Пра аб'яднанне з ПНЗ казаў яшчэ і нябожчык Міхась Ткачоў.

**-- І ўсё ж нельга не заўважыць, што аб'яднанне з ПНЗ прывяло да пэўнага расколу ў самой Грамадзе.**

-- Не, вы памыляецеся. Справа ў тым, што некалькі чалавек уздымаюць столькі лямanту ў прэсе, што стварaецца ўражанне расколу. Але гэта не так, прычым гэта не маё суб'ектыўнае меркаванне. Ёсць аб'ектыўныя даныя: супраць аб'яднання на ўстаноўчым сходзе прагаласавала толькі чатыры чалавекі. І гэта нармальна. Дзесяцігоддзямі мы галасавалі аднагалосна, але ў дэмакратычных сістэмах так не бывае. Калі нехта хоча мець дробную партыйку накшталт дыскусійнага клуба, збірацца і весці размовы паміж сабой, мы зусім не супраць. Гэта іх прыватнае жаданне, і мы яго паважаем. Наверце, мы не шмат страцілі, што сышлі некалькі чалавек. Магчымасцей нешта зрабіць у іх было больш чым зашмат. Аднак увесь мінулы год яны працавалі толькі на разбурэнне, чым вельмі шкодзілі і партыі, і сацыял-дэмакратычнай ідэі ўвогуле. Калі нехта пачынае прайграваць ва ўнутрыпартыйнай дыскусіі, дык замест таго каб давесці гэтую дыскусію да канца з сябрамі і расставіць усе кропкі над "і", яна чамусьці выносіцца ў сродкі масавай інфармацыі. Няцяжка здагадацца, што тут я маю на ўвазе былога старшыню партыі спадара Трусава. Але так у цывілізаваным грамадстве не робяць. Па-першае, гэта ніяк не стасуецца з мараллю і этыкай, а па-другое, ніхто не можа прэтэндаваць на агульную ісціну.

Само па сабе пытанне аб'яднання вельмі складанае. Я працаваў над ім увесь год. Першае, тут паўстае псіхалагічная праблема міжасобасных адносін як паміж групамі людзей, так і на ўзроўні лідэраў. Вельмі часта тут пачынаюць шкодзіць уласныя амбіцыі, бо адна з першых асобаў мусіць апынуцца на другіх ролях, другая -- на трэціх і г. д. Горш за ўсё, што ў такім выпадку некаторыя пачынаюць хаваць свае амбіцыі за святыя і добрыя словы.

**-- Сумны вопыт сведчыць, што, калі два беларусы (дарэчы, дзе б яны ні былі) пачынаюць працаваць на адну справу, яны ў хуткім часе пра яе забываюць і пачынаюць высвятляць адносіны паміж сабой. Ці не пагражае гэта новаму саюзу!**

-- Мяркую, праблем тут не будзе. Па-першае, ёсць праграма, і ёсць статут, якія мы распрацоўвалі разам і разам мусім выконваць. Там распісана, што і як мы мусім рабіць. Па-другое, ёсць рэвізійная камісія на чале са спадаром Таразевічам, якая за парушэнне асноўных дакументаў можа нават выключыць з партыі. Саюз узначальваюць два сустаршыні, функцыі якіх выразна падзелены. Я кірую выканаўчым бюро партыі, г. зн. партыйнымі структурамі. Сп. Сечка кіруе партыйнай групай, рэальна -- фракцыяй. Мне цяжка ўявіць тут нейкія кропкі сутыкнення. Пакуль мы заўсёды знаходзілі паразуменне. Трэба проста сумленна працаваць і рабіць сваю справу.

**-- Дык што ж пашыраная сацыял-дэмакратычная партыя можа сёння прапанаваць грамадзянам Беларусі!**

-- Мы зыходзім з таго, што людзі на выбарах галасуюць, у першую чаргу, за свой дабрабыт. Так робіцца ва ўсім свеце, і гэта нармальна. Беларусы даўно заслужылі годнае існаванне. Яны павінны мець усё неабходнае, каб нармальна жыць і працаваць: чыстую ежу, добрую вопратку, медыцынскае абслугоўванне, якасную адукацыю для сваіх дзяцей. Я шчыра веру, што сёння выратаваць Беларусь могуць толькі сацыял-дэмакраты, у якіх тут шанцаў больш, чым у іншых краінах былога СССР. Узровень жыцця ў нас быў заўсёды вышэйшы. Цяпер, калі гэты ўзровень толькі пагаршаецца, людзі проста мусяць шукаць сілу, якая іх абароніць. Сёння такая сіла ўжо нараджаецца.

Як і сацыял-дэмакраты ва ўсім свеце, мы бяром на сябе абавязак бараніць правы наёмных работнікаў -- найбольш масавага слоя насельніцтва. Пры гэтым мы не збіраемся, як камуністы, знішчаць прадпрымальнікаў ці прыватных уласнікаў. Каб здзейсніць сваю мэту, мы наладжваем цеснае супрацоўніцтва з масавымі прафсаюзамі. У перспектыве я бачу ўваход прафсаюзных лідэраў у нашы кіруючыя структуры дзеля больш эфектыўнай сумеснай працы. Каб быць прывабнымі як для прафсаюзаў, так і іншых дэмакратычных партый, мы стратэгічна проста не можам дазволіць існаванне некалькіх партый сацыял-дэмакратычнага кірунку, інакш усе сілы пойдуць на змаганне паміж сабой, а не з камуністамі, якіх мы бачым галоўным сапернікам. Мы мусім быць моцнай і адзінай сацыял-дэмакратычнай партыяй і мець сваю моцную фракцыю ў парламенце, якая б лабіравала сацыяльныя пытанні.

**-- У нашых дэмакратаў ніколі не было недахопу ў добрых намерах. Праблемы былі з дасягненнем мэтаў. Якія сродкі вы збіраецеся выкарыстоўваць для ажыццяўлення сваіх мэтаў і задач!**

-- Сродкі і дзеянні будуць самыя розныя. Я хацеў бы таксама адзначыць, што наш ідэалагічны, так бы мовіць, цэнтрызм зусім не абумоўлівае цэнтрызм і памяркоўнасць ідэй. Цяперашняя наша ідэалогія патрабуе ад нас дастаткова жорсткіх дзеянняў, каб адстаяць і абараніць суверэнітэт і дэмакратычныя каштоўнасці ў Беларусі, правы кожнага грамадзяніна, стварыць сацыяльныя ўмовы дзеля годнага існавання. Напрыклад, нядаўна наша фракцыя выпрацавала закон аб наданні заробатнай плаце статуса першачарговага плацяжу.

**-- Які нядаўна прыняты Вярхоўным Саветам!**

-- Так. І калі рашэнне Вярхоўнага Савета не будзе выконвацца, тады мы і прафсаюзы маем права праводзіць масавыя палітычныя акцыі пратэсту. Мяркую, восень, як і вясна, будзе гарачай. Трэба прымушаць выканаўчыя інстытуты выконваць прынятыя Вярхоўным Саветам акты і заканадаўства і прыцягваць увагу грамадства да парушэння заканадаўства, Канстытуцыі і г. д. Увогуле трэба вучыць людзей абараняць правы, вучыцца дапамагаць сабе самім, як гэта робіцца ва ўсім свеце. Дзеля гэтага з імі трэба працаваць. Сёння ў грамадстве вялікі патэнцыял сацыяльна і палітычна незадаволеных людзей. Відавочна, моладзь рэагуе хутчэй, радыкальней і рацыянальней. Той, хто здолее яе прывабіць і арганізаваць праз акцыі, дзеянні, сумесную працу, той і пераможа.

**-- Ці існуе для вас нейкая мяжа ці крытэрый, па якім вызначаеце, што з пэўнай групай ці партыяй вы ніколі супрацоўнічаць не будзеце!**

-- Мы адкрыты для ўсіх і гатовы на перамовы і паразуменне з усімі, хто падзяляе нашы ідэалы, а пазіцыя якіх устойлівая і не мяняецца ў залежнасці ад часу, месца або аўдыторыі. Адышоў час зычных заяў, і прыйшоў час рабіць канкрэтную справу. Увогуле, я вельмі задаволены, што з дыскусійнага клуба мы пераўтварыліся ў сапраўдную сілу і прыцягваем да сябе іншых прыхільнікаў. Мы наладзілі сталыя сувязі і супрацоўніцтва з роднаснымі партыямі і прафсаюзнымі арганізацыямі, і спадзяюся на пашырэнне саюза ў хуткай будучыні. Мы поўнасцю захапілі сацыял-дэмакратычную нішу, чым адразу паменшылі шансы камуністаў на заваяванне даверу самага масавага слоя выбаршчыкаў, нарэшце, мы ўпершыню здолелі правесці першую масавую акцыю (гэта было 1 Мая), што раней маглі сабе дазволіць толькі камуністы і БНФ. Усё гэта крытэрыі і паказчыкі таго, што існуе не фікцыя, а сапраўдная партыя, рэальная сіла, якая будзе адстойваць і змагацца за незалежнасць, працу, дабрабыт.

**Гутарыла Таіса БАНДАРЭНКА.**

# ХРЫСЦІЯНСТВА Ў ГІСТАРЫЧНЫМ ЛЁСЕ БЕЛАРУСАЎ

**Працяг. Пачатак у NN 29--30.**

Але кнігі ягоныя былі спаленыя па загаду князя Васілія III. У 1596 годзе праваслаўны сабор у Навагрудку асудзіў як "ерэтычны" беларуска-польскі "Катэхізіс" (1595) Стэфана Зізанія, рэлігійнага пісьменніка і царкоўнага прапаведніка, а самога аўтара пазбавіў духоўнага сану і адлучыў ад царквы. Праўда, славуты уніяцкі Брэсцкі сабор (1596) апраўдаў С. Зізанія.

У 1620--1623 гадах брат Стэфана, беларускі і ўкраінскі педагог і царкоўны дзеяч, аўтар першай "Грамматики словенскай" (Вільня, 1596) Лаўрэнцій Зізаній працаваў над "Катэхізісам Вялікім" па заказу маскоўскага "и всея Руси" патрыярха Філарэта, бацькі заснавальніка дынастыі Раманавых цара Міхаіла. Патрыярх лічыў усіх асветнікаў, якія прыязджалі ў Маскву з Вялікага Княства Літоўскага, патэнцыяльнымі ерэтыкамі і патрабаваў паўторнага іх хрышчэння, дарэчы, у парушэнне праваслаўнага Сімвала Веры. "Катэхізіс" Л. Зізанія пасля шматлікіх рэдактарскіх правак, скарачэнняў і дапаўненняў у Маскве быў "зарэзаны", а той, які прыпісваецца гэтаму аўтару -- "Книга по гречески Катихизис, по литовски Оглашение, русским же языком нарицается Беседословие в тетрадях десть" (1627) -- фактычна быў новым, калектыўным творам.

Нягледзячы, на першы погляд, на няўдачу хрысціянска-асветніцкай місіі беларускай багаслоўскай школы ў Маскоўскім царстве, яна засведчыла свой высокі ўзровень і ў рэшце рэшт паўплывала не толькі на расійскае багаслоўе, але і на рускую культуру XVI--XVIII стагоддзяў. Жывым увасабленнем гэтага ўплыву стаў выдатны беларускі пісьменнік, аратар, тэолаг, грамадскі і царкоўны дзеяч Сімяон Полацкі (1629--1680). Амаль што апакаліптычны ваенны "патоп" 50--60-х гадоў XVII стагоддзя (у выніку польска-шведскай вайны і вайны Маскоўскага царства з Вялікім Княствам Літоўскім за Беларусь і Украіну) насельніцтва Беларусі скараціў амаль напалову.

Вялікая дэмаграфічная катастрофа пахіснула веру Сімяона ў Рэч Паспалітую. Ён спадзяваўся, што яго бацькаўшчыну выратуе ваенна-палітычны саюз з Расіяй. У 1664 годзе ён прыняў запрашэнне пераехаць у Маскву, дзе стаў на чале лацінскай школы для падрыхтоўкі чыноўнікаў Тайнага прыказу (асабістай канцылярыі цара), дасведчаным тэарэтыкам царкоўнай рэформы, якая пачалася патрыярхам Ніканам і палемістам з стараверчаскай апазіцыяй (трактаты "Жезл правления" і "Опровержение челобитной попа Никиты"), кіраўніком дамашняй школы царскіх дзяцей, урэшце, неафіцыйным настаўнікам практычнай гамілетыкі. Сімяон пісаў казанні для расійскіх праваслаўных іерархаў і падрыхтаваў для гэтай мэты фундаментальныя зборнікі аратарскай прозы.

Свае погляды ён выклаў у гэтых рукапісах пад назвай "Обед душевный" і "Вечеря душевная" (каля 1 500 старонак кожная, падрыхтаваныя ў 1675 і 1676 гадах, апублікаваны ягоным вучнем Сільвестрам Мядзведзевым у 1681 і 1683 гадах). Гэта -- лепшыя, напісаныя ў вытанчаным стылі барока творы, прысвечаныя красамоўніцкаму абгрунтаванню праваслаўнай тэалогіі, этыкі, аксіялогіі і эстэтыкі. Па сутнасці, гэты беларускі царкоўны пісьменнік далучыў праваслаўную багаслоўскую думку да еўрапейскай хрысціянскай тэалогіі, захаваўшы яе самабытнасць і шматвяковыя традыцыі. Пры гэтым ён напаўсакрэтна захаваў сімпатыю да беларускага уніяцтва, бо сярод экслібрысаў ягонай бібліятэкі ёсць і такі: "З кніг Сімяона Пятроўскага-Сітняновіча, полацкага іераманаха ордэна св. Базыля Вялікага. Лета Гасподня 1670, 26 жніўня ў Маскве" (пераклад з лацінскай мовы).

Прынцыповае адрозненне станаўлення нацыянальнай і рэлігійнай свядомасці беларусаў ад такога ж працэсу ў дэспатычным Маскоўскім царстве XVI--XVII стагоддзяў абумоўленае сацыяльна-палітычным ладам кожнай з гэтых дзяржаваў, іх этна-дэмаграфічным складам, урэшце, традыцыйным менталітэтам. Вялікае Княства Літоўскае, якое пасля Люблінскай уніі 1569 года разам з Польшчай уваходзіла ў канфедэратыўную дзяржаву Рэч Паспалітую, было поліэтнічнай феадальна-дэмакратычнай дзяржавай на чале з выбраным вялікім князем, які, паводле ўмоваў Крэўскай уніі 1386 года і Люблінскай уніі, быў адначасова каралём Польскай Кароны. Грамадзянскія правы ў Беларусі гарантавала беларуска-літоўская канстытуцыя -- Статут Вялікага Княства ў рэдакцыях 1529, 1566 і 1588 гадоў, а да прыняцця Статутаў -- адпаведныя акты Сойму і вялікага князя. Усё гэта спрыяла развіццю шматканфесійнасці, рэлігійнай і, шырэй, светапогляднай талерантнасці, пра якую не магло быць і гутаркі ва ўмовах расійскага таталітарызму.

Усе гэтыя фактары, а таксама геапалітычнае становішча Беларусі на перакрыжаваннях разнастайных культур абумовілі спецыфічна беларускі феномен -- поліканфесіяналізм этнічнай і нацыянальнай самасвядомасці. У адрозненне ад сваіх саюзнікаў па канфедэрацыі, нацыянальная самасвядомасць якіх фарміравалася пераважна ў духоўным полі адной (каталіцызм палякаў і літоўцаў) альбо дзвюх (праваслаўе і каталіцызм, пазней уніяцтва ўкраінцаў), Беларусь у другой палове XYI стагоддзя на пэўны час стала арэнай рэфармацыйнага руху і калыскай узгадавання розных плыняў пратэстантызму, у тым ліку самых радыкальных (сацыянства, антытрынітарызм) аж да вальнадумства і атэізму. Тут знайшлі прыстанішча ерэтыкі-вальнадумцы (Феадосій Касой, Ігнацій ды інш.) з Расіі, дзе лаяльнасць да дзяржавы і "рускасць" фактычна была тоесная з праваслаўем, нават з Заходняй Еўропы (Фаўст Соцын з Італіі), дзе ў гэты час каталіцызм і памяркоўнае пратэстанцтва набывалі статус "дзяржаўных" канфесіяў.

Беспамылковым аб'ектыўным крытэрыем нацыянальнага самаўсведамлення асобы, пэўнай сацыяльнай групы, канфесіі, грамадства і, урэшце, дзяржавы ёсць іхняя інтэграцыя ў кантэксце роднай мовы і, шырэй, традыцыйнае культуры карэннага народа. Усе іншыя фактары, у тым ліку этнічнае паходжанне, узровень адукаванасці, нават тыпы менталітэту, маюць істотнае, але ўсё ж перыферыйнае і функцыянальнае значэнне. Дык вось, паводле гэтых крытэрыяў Вялікае Княства Літоўскае, у якім старабеларуская мова была мовай дзяржавы, рэлігіі, літаратуры і адукацыі, было ў сэнсе этна-нацыянальнай самасвядомасці пераважна беларускай дзяржавай. Праўда, тут недапушчальна мадэрнізацыя гісторыі, экстрапаляцыя сучаснага паняцця Беларусі на мінуўшчыну. Вялікае Княства Літоўскае -- гэта вынік аб'яднання былой, паводле вызначэнняў В.Ластоўскага, Вялікай Крывіі (Полацкага княства разам з іншымі славяна-балцкімі землямі, якія ўваходзілі ў сферу ягонага ўплыву), летапіснай Літвы, Літвы этнічнай, значнай часткі Украіны. Дзяржава, як усякі іншы этна-сацыяльны інстытут, павязана гістарычнай традыцыяй, яе свядомасць зарыентавана на сучаснасць і на мінуўшчыну і толькі часткова (у геапалітычных праектах і нацыянальных ідэях) на будучыню. Геапалітычная стратэгія Вялікага Княства Літоўскага заключалася ў тым, каб аб'яднаць былыя землі заходняй і паўднёвай Русі, утрымаць Вялікае Маскоўскае Княства ў ягоных межах XIII--XIY стагоддзяў, падавіць агрэсію татара-турэцкую і нямецкую (Тэўтонскага і Лівонскага ордэнаў) і нейтралізаваць "мірную экспансію" саюзніка па канфедэрацыі -- Польшчы.

Калі б гэткая геапалітычная стратэгія ўдалася, то ў эпоху нацыянальнага самавызначэння народаў Цэнтральна-Усходняй Еўропы (XIX -- пачатак XX стагоддзяў) на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага маглі б утварыцца жыццяздольныя нацыянальныя дзяржавы -- Беларусь (альбо Літва, Літоўская Русь), Украіна, Літва (альбо Жмудзь), Латвія і Эстонія. У саюзе з Польшчай яны маглі б стварыць першы ў Еўропе блок дзяржаваў, які забяспечыў бы палітычную стабільнасць у гэтым макрарэгіёне і, верагодна, выключыў бы саму магчымасць дзвюх сусветных войнаў у XX стагоддзі.

Да сярэдзіны XYII стагоддзя Вялікаму Княству ў саюзе з Польшчай удавалася стрымліваць націск на гэтую выспу дэмакратыі і права ў цэнтральна-ўсходняй Еўропе з чатырох бакоў -- усходу (Расія), захаду (Германія), поўначы (Швецыя) і поўдня (рэшткі ўсходнеазіяцкай дэспатыі ў абліччы Турэччыны і крымска-татарскага рудыменту). Нават пасля страшэннага "патопу" польска-шведскай і маскоўска-літоўскай вайны ў другой палове XYII стагоддзя Рэчы Паспалітай удалося часткова стабілізаваць сваё міжнароднае становішча амаль на стагоддзе. Распад гэтай дзяржавы выспяваў у выніку ўнутраных сацыяльна-палітычных і канфесіянальных супярэчнасцяў. Канфрантацыя абвастрылася імперскім сіндромам Польшчы, якая імкнулася ператварыць канфедэратыўную Рэч Паспалітую ў сваю нацыянальна-унітарную дзяржаву. Унутраныя супярэчнасці выкарыстала Расія: дамовіўшыся з Аўстрыяй і Прусіяй, яна здолела далучыць да свае імперыі Вялікае Княства Літоўскае і спрабавала "пераварыць" у чэраве імперскага Левіафана жыццяздольныя, яшчэ не сфармаваныя ў нацыянальныя дзяржавы народы -- беларусаў, украінцаў, літоўцаў, латышоў і эстонцаў. Наступствы былі драматычнымі: барацьба гэтых народаў за нацыянальна-дзяржаўнае самавызначэнне затрымалася на два стагоддзі -- ад трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай (1795) да другога распаду Расійскай імперыі ў 1991 годзе, калі адбыўся распад СССР.

***

У канцы XYI -- першай палове XYII стагоддзяў закончыўся этап этнічнай самаідэнтыфікацыі народаў канфедэратыўнай Рэчы Паспалітай і пачаўся працяглы перыяд станаўлення сучасных нацыяў і шматнацыянальных імперыяў у Цэнтральна-Усходняй Еўропе. Узмацніліся працэсы палярызацыі, умоўна кажучы, "заходняга" і "ўсходняга" тыпаў культуры, якія ў канфесіянальным аспекце выявіліся ў форме апазіцыі "каталіцызм-праваслаўе". Паскорыла гэтую духоўную раздвоенасць Люблінская унія 1569 года, бо яна падрыхтавала прапольскую пазіцыю каталіцызму і прамаскоўскую арыентацыю праваслаўя. Але перш чым гэты працэс "нацыяналізацыі" хрысціянства закончыўся, Беларусі было наканавана паслужыць своеасаблівым "палігонам", у рамках якога на працягу паўтара стагоддзяў выпрабоўвалася магчымасць хрысціянскага адзінства ў форме царкоўнай уніі.

Драматычнай гісторыі, распачатай Брэсцкай уніяй 1596 года, папярэднічаў рэфармацка-пратэстанцкі эпізод, які паскорыў спробу злучэння беларускіх праваслаўнай і каталіцкай цэркваў, бо пагражаў аўтарытэту абедзвюх канфесій.

У спецыфічных умовах этнічна і канфесійна неаднароднай дзяржавы сфармаваўся тып пісьменніка, асветніка, дзяржаўнага і рэлігійнага дзеяча, які ўзгадаваўся на перакрыжаваннях дзвюх альбо некалькіх культур. У яго свядомасці праглядаецца дуалізм, раздвоенасць нацыянальнай самаідэнтыфікацыі: на ўзроўні архетыпаў (традыцыйных вобразаў успрымання быцця і генетычна запраграмаваных першаэлементаў ментальнасці) такая асоба належала адной, у нашым выпадку беларускай нацыі; а паводле адукацыі, выхавання і дзяржаўнай свядомасці -- да іншай нацыянальнасці, у нашым выпадку да польскай.

Тыповымі дзеячамі на мяжы дзвюх культур -- польскай і беларускай -- былі ідэолагі рэфармацыйнага руху, найперш самы славуты з іх Сымон Будны (каля 1530--1583), лідэр польска-беларускага арыянства. Жыццёвы шлях, асветніцкую дзейнасць і светапогляд гэтай загадкавай фігуры ў нашай гісторыі даследаваў Іван Саверчанка ў манаграфіі "Сымон Будны -- гуманіст і рэфарматар" (Мн., 1993). Праўда, аўтар не пазбег апалогіі героя сваёй кнігі, бо перабольшыў беларускую самасвядомасць С.Буднага, не заўважыў яго вялікапольскую арыентацыю, адносна якой беларускасць гэтага бунтара супраць артадаксальнага хрысціянства была скарэй функцыянальным эпізодам, а не этна-нацыянальнай самаідэнтыфікацыяй. Бясспрэчна, беларускамоўныя творы С.Буднага "Катэхізіс" і "Апраўданне грэшнага чалавека перад Богам" (Нясвіж, 1562, апошняя кніжка не захавалася) увайшлі ў кантэкст беларускай культуры і сведчаць пра пэўны ўзровень беларускай свядомасці аўтараў і іх заказчыкаў -- кальвінісцкага мецэната Мікалая Радзівіла Чорнага і ягоных сваякоў. Прадмова да "Катэхізіса" сведчыць пра стылістычнае наследаванне творам Ф.Скарыны: "Доконана есть сия книга, зовемая греческим языком Катихисис, а по словеньски Оглашение. Богу ко чти и посполитым людем языка руского к наказанью и доброму наученью накладом боголюбивых мужей: пана Матфиа Кавечинскаго, наместъника несвижского, Симона Будного, Лаврентия Крышковъского. На городе Несвижским. Под леты от воплощениа Спасова тысеча пятисот шестьдесят второго, месеца июниа, десятого дня". У прадмове да "Катэхізіса", напісанай, на думку І.Саверчанкі, адным Будным, ёсць зварот да "их милости Миколаев Радивилов", у якім можна пачуць заклік паважаць родную "славянскую" мову. "...Абы ся ваши княжацкие милости не только в чужоземских языцех кохали, але бы ся тежь ваши княжацкие милости и того здавна славного языка словенъского размиловати и оным ся бавити рачили. Слушная бо речь ест, абы ваши княжецкие милости того народу язык миловати рачили, въ котором давъные предъки и их княжацкие милости панове отци ваших княжеских милости славне преднейшие преложеньства несуть".

Гэты патрыятычны пасаж сведчыць, што ранні Будны знаходзіўся пад уплывам Скарынавай традыцыі. Але ягоная "славянскасць" была нядоўгай. У 1563-1564 гадах С.Будны адмежаваўся ад памяркоўнай плыні кальвінізму, перайшоў на пазіцыі радыкальна-арыянскага антытрынітарызму, набыў новых апекуноў у сям'і нябожчыка Станіслава Кішкі у Холхаве (каля Маладзечна) і Заслаўі. Усе наступныя свае кніжкі і брашуры -- польскі антытрынітарны варыянт "Катэхізіса", "Аб зачацці Сына Божага" (1569), "Новы запавет" і "Апокрыфы" (Нясвіж, 1570), Біблію Новага і Старога запаветаў (Заслаўе-Узда, 1572), "Кароткі доказ таго, што Хрыстос не з'яўляецца такім Богам, як Бог Айцец" (1574), "Аб асноўных артыкулах хрысціянскай веры" (Лоск, 1576), "Пра свецкую ўладу" (Лоск, 1577) і іншыя Будны пісаў па-польску. Адным словам "коханье" самога арыянскага прапаведніка да "слаўнага языка словенского" было кароткім.

Нават памяркоўны кальвінізм Буднага не закрануў глыбока культуру беларусаў і літоўцаў. А ягоная арыянская прапаганда, відавочна, была несумяшчальнай з хрысціянскім менталітэтам. С.Будны ў "польскі" перыяд свайго пісьменніцтва і антытрынітарнай прапаганды спрабаваў абаперціся на дэнацыяналізаваную беларуска-літоўскую шляхту і местачкоўцаў, сярод якіх было нямала іншаверцаў. У рэшце рэшт, арыянства С.Буднага, яго далёкіх і блізкіх папярэднікаў сышло са сцэны рэлігійных ідэй, не пакінуўшы прыкметнага следу ў народнай свядомасці.

Пачынальнікам беларускага пратэстантызму, паводле этнічнай самасвядомасці, моўна-культурнай і рэлігійнай арыентацыі быў не так С.Будны, як Васіль Цяпінскі (каля 1530-1603), якога некаторыя даследчыкі залічваюць да "паплечнікаў С.Буднага", але без грунтоўнага навуковага доказу. Ён быў скарэй паслядоўнікам Ф.Скарыны -- такім жа самаахвярным энтузіястам, як і беларускі асветнік і першадрукар: каля 1580-га года пераклаў на беларускую мову і за ўласны кошт выдаў няпоўнае Чацьвераевангелле з прадмовай, у якой, бадай што, першым у нашай інтэлектуальнай гісторыі сказаў пра небяспеку татальнай дэнацыяналізацыі беларусаў у выніку непавагі да мовы роднай і родных каранёў.

**Уладзімір КОНАН.**

# "НАШ ЖУРБОТНЫ ШЛЯХ ПРАЦЯГВАЕЦЦА..."

## (ПІСЬМЫ У. ДУБОЎКІ ЖОНЦЫ І БЛІЗКІМ СА СТАЛІНСКІХ ЛАГЕРАЎ І ЭТАПАЎ)

Можно пару пачек суррогатного кофе, я его употребляю насухо, как лекарство. Неужели нельзя это сделать через папу? Из Сибири посылки получают многие, а средств ведь у них хватило бы. В общем -- попробуй как-нибудь. Хоть питание у нас сносное, но мне лично его все же маловато. Из одежды или обуви ничего не спрашиваю. Если будешь посылать ты -- положи пару носовых платков, если сумеешь через папу -- пусть положат какой старый свитер (вязаную фуфайку). Вот и все, что я смогу написать сейчас. Не удивляйся лаконичности моих писем, а также и тому, что они редко доходят. Пора привыкнуть к этому. Сама пиши почаще, но только подробнее о своей жизни, о бытовых условиях и поменьше о душевных переживаниях. Они мне понятны и так, без писем, а в письмах вызывают только недоумение. Между прочим, последние от тебя были от октября м(еся)ца. Не знаю, писала ли ты или они где задержались в пути. Привет родным. Целую тебя.

**Володя.**

*16.05.44*

Дорогая Марилька!

От тебя сравнительно давно не получаю писем. Последний раз писал тебе 9-05-44 открытку, в которой сообщал о получении посылки от Таси через Казань. Пиши о здоровье, о том, как готовишься к севу, вернее -- как проводишь его, как живешь. Я очень благодарен и тебе, и родным остальным за то, что не забываете меня. Все мечтаю о том, что, быть может, судьба позволит увидеться с вами всеми, позволит хоть на закате дней пожить вместе, чего я лишен такое долгое время. Пиши. Целую тебя.

**Владимир.**

*9.06.44*

Дорогая Марилька!

Получил твою открытку от 14.04.44. Очень благодарен за нее и очень рад тому, что ты все же живешь сравнительно не плохо материально, а это очень важно в настоящее время. Главной ценностью является то, что ты живешь на одном месте, и ты даже мысли такой не допускай, чтобы сейчас переезжать куда-либо, а особенно в дальние места. Я пока жив и относительно здоров, работаю там же. Очень поддержали меня посылки твои и Тасины. Тася писала, что из Казани отправлены две посылки, но я пока что получил одну. Будет жалко, если вторая пропала где в пути следования. Пиши, получаешь ли мои открытки. Я их писал в последнее время порядочно. 3 апреля давал тебе телеграмму. Пиши, как посадила огород, как растет что в огороде. Пиши, дорогая. Целую тебя. Привет родным.

**Владимир.**

*17.07.44*

Дорогая Марилька!

Числа 6-го получил твою посылку и две открытки: от 29.V и 4.VI. Очень благодарен тебе и за то, и за другое. За посылку особенно, потому что пришла она к дню моего рождения (15-07). Жиры и порошок не расходую, оставляю к картошке, которая вот-вот должна поспеть под моим окном, уже в цвету, вообще на нашем маленьком огородике все растет очень хорошо, не знаю только, что придется спожить. Ведь у нас могут и утащить, и перебросить могут. Во всяком случае хоть удовольствие получишь, видя, как растет все. Огурцы ранние цветут, закрыли всю землю, только пустоцвет пока все, завязи очень мало. Из Казани я получил одну посылку (мука черная, махорка, поллитровая банка лою, две пачки папирос), не знаю, если оттуда предполагали послать две посылки, то одна где-то пропала. Скорее всего при отправлении, потому что у нас она не могла пропасть. За семь лет такого случая у меня не было. А очень жалко будет, потому что первую я получил числа 3 июня. Здоровье мое такое: последняя медиц(инская) комиссия записала мне "миокардит с частыми декомпенсациями" и перевела меня из группы инвалидов в легкий труд. Это улучшение означает, что по инвалидности меня уже не отпустят. Не знаешь, чему радоваться -- улучшению или ухудшению здоровья. Очень благодарен тебе за сообщения о твоем здоровье, о твоем маленьком хозяйстве. Я теперь хотя представление имею об этом. Не знаю, получится ли что из твоих заявлений. Скорее всего, что ничего. Пиши про себя. Про меня зачем повторять в своих письмах. То, что я болел -- болел, теперь я относительно поправился. Также относительно сыт, одет, обут. Забыл весной попросить прислать какие тапочки или что вроде сандалий, а сейчас уже и ни к чему. Потому что пришли бы они только к осени. А на осень у меня есть бурки, есть суконные брюки, еще гимнастерка хорошая, пиджачок. Если сумею, оборудую себе меховой пиджак, крытый сукном. Материал есть, остановка за работой. Белье, хотя и старое, есть. За носовые платки -- спасибо. Их у меня сейчас штук пять.

Если получишь мои ранее посланные письма -- будешь знать, чего мне нужно. Во всяком случае всегда подходи к этому вопросу так: доступно это тебе для покупки, не слишком дорого -- посылай. Слишком дорого -- не надо. Привет родным. Целую тебя.

**Володя.**

*20.07.44*

Дорогая Марилька!

Получил последний раз твои две открытки от 29-05 и 4-06, а также посылку, за которые очень и очень благодарен. Получил все это числа 5-07, но до сего времени экономлю, т.к. 15 был день рождения, а 28 -- именины. Здоровье мое лучшее. Последняя медкомиссия отметила у меня "миокардит с частыми декомпенсациями", перевела меня из группы инвалидов в категорию легкого труда. Пока работаю в конторе техучетчиком. Не знаю, конечно, как будет дальше, ибо все зависит от стечения обстоятельств и многих других причин. Во всяком случае -- ты за меня не беспокойся. Бог даст, как-нибудь доживем до счастливой встречи. Если представится случай прислать чего-либо -- никогда не ломай голову над тем, что именно послать -- смотри, что доступнее достать. Если удастся собрать хотя какую пятую долю того, что растет у нас с товарищем, то табак, например, мне вовсе от тебя не потребуется. Вообще, не так плохо с питанием по нынешним временам у нас дело обстоит. Вполне понятно, что недостает того, чего и у вас, очевидно, недостает. Дай бог, скоро закончится война, все груди вздохнут свободно, будет всего изобилие. Проклятые немцы ведь уже ушли смотри куда.

Привет всем родным. Целую тебя.

**Владимир.**

Мыло мне больше не нужно. Если иголки недорогие и можно достать -- положи размером немного побольше. Положи штук десять пуговиц для верхней рубашки, для груди, манжет, любого цвета, но тоже необязательно, ибо смогу набрать разных цветов и размеров, а это для меня совершенно безразлично. Целую.

**Владимир.**

Как здоровье мамы? Приезжала ли к тебе Тася? Привет им, т.к. я им давно не писал.

**Владимир.**

*5.X.44*

Дорогая Марилька!

Только что получил твою посылку. Очень и очень благодарен как за присланное, так -- еще в большей степени -- за твои заботы и внимание. Хотя ты и писала, что посылка маленькая, но она для меня является очень ценной. Пока что у нас водится картошка со своего огорода, горсточка фасоли, смотришь, с добавкой присланного тобой получится прекрасное блюдо. Мне только иногда бывает совестно перед тобой, что я доставляю тебе столько хлопот. Сумею ли я только отблагодарить тебя за эти заботы, внимание, дорогую память.

Работаю пока что в конторе. Здоровье мое сравнительно удовлетворительное. Конечно, сравнивать меня с этим моим удовлетворительным здоровьем, скажем, применительно к 35--36 году никак нельзя. Недаром некоторые зовут меня "батя", "папаша", а часто слышу -- "дедушка". Вот какова жизнь, судьба, вот каков полет быстрокрылого времени!

Не раздавали еще писем. Возможно, что в числе их будут и для меня. Поэтому письма не заканчиваю, дополню его после раздачи писем.

Привет всем родным. Как здоровье мамы? Видела ли ты Тасю? Также с нетерпением жду от нее письма, так как еще 3-8-44 отправил письмо секретарю ЦК КП(б)Б, о котором она должна мне сообщить. Целую тебя. Большое, большое спасибо, сердечное спасибо за присланное тобой.

Если получу твои письма сегодня -- сегодня отвечу на них отдельно, а пока отправляю это письмо только в таком виде. Привет, целую тебя, желаю всего наилучшего.

**Владимир.**

Только что получил твои письма. Отвечу на них отдельно. Пока что скажу коротко -- да не будет у тебя пусть никаких черных мыслей насчет наших взаимоотношений в будущем. Ты для меня одна на свете. Не забывай этого никогда и не обращай внимания ни на какие мелочи. Целую.

**Владимир.**

*13 ноября 1944 г.*

Дорогая Марилька!

Отвечаю на твою открытку от 15-X-44. За это время ты должна была получить несколько моих писем, в которых я писал и о своем здоровье, и о получении твоей октябрьской посылки. Береги продукты для себя, в частности и картофель. Неужели никакого результата не будет по моему делу? Я так надеялся на него именно при прохождении его через Минск.

Мне даже неудобно читать о том, что ты посылаешь в новой посылке. Так трудно достается все это сейчас! Одно только утешает, что скоро кончится война и тогда положение с продовольствием сразу же изменится в лучшую сторону. Справку о посылках отправили, очевидно, из нашего отделения, т. к. месяца два тому назад составили списки на лиц, имеющих возможность получать посылки. Врут твои почтовики, что они только сейчас получили установку. Установка им дана давно, но, очевидно, для них была какая-то выгода задерживать прием. Ну, бог с ними! Меня очень удивило, что до 15-X у тебя свекла сидела в огороде. Неужели у вас там заморозков не было? У нас в это время было, я бы сказал, прохладно. А сейчас -- настоящая зима. Пиши, Марилька. Еще и еще раз благодарю тебя за все внимание и заботу. Привет родным. Тасе пишу отдельно, т. к. получил открытку и от нее. Получил также письмо от Ани, отправленное ею 14 апреля. Вот это номер! Не пойму только, кому и где панадобилось придерживать его так долго. Целую тебя.

**Владимир.**

*15.XI.44.* Ничего не заказываю присылать мне. Смотри по своим ресурсам и возможностям. За все присылаемое и могущее быть присланным заранее благодарю. Пока это письмо придет к тебе, а твое обратно -- наступит и Новый Год, с которым поэтому уже сейчас поздравляю и желаю всего наилучшего, а особенно нашей встречи. Целую тебя.

**Владимир.**

*26-1-45*

Дорогая Марилька!

Сегодня получил твою посылку и два письма. Посылка пришла в Бару еще перед Н[овым] Г[одом], но доставили ее только сейчас. Очень благодарен за присланное. Здоровье мое относительно не плохое. Письмо о смерти мамы получил, ответил на него тогда же Тасе и писал тебе. Думаю, что ты уже получила мои письма. Писал я их накануне Н[ового] Года, т. к. письмо Тасино получил 31/XII--44. Глубину моей скорби ты можешь представить себе. Такие утраты одна за другой. А вот еще и ты заболела при своей поездке. Это также меня очень опечалило и озаботило. Напиши, как твое здоровье. Скорей бы закончилась война. Каждый день приносит все новые и новые приятные вести с фронта, и это только и радует меня, смягчает личные скорби. Целую тебя, дорогая. Постараюсь в ближайшие дни написать письмо, а пока ограничиваюсь этой открыткой. Еще раз благодарю за заботы, за внимание, за память. Будь здорова, поправляйся. Целую.

**Владимир.**

*14-3-45*

Дорогая Марилька!

Получил твои два письма, вернее письмо с извещением об отправке посылки, которую я уже давно получил и почти закончил, и открытку, в которой ты пишешь о своей болезни. Опечален тем, что хворала, рад тому, что поправилась. Сердечно благодарен за заботы. Еще раз прошу: если я чего заказываю, то ты ни в коем случае не придавай этому большого значения, а смотри по своим ресурсам и возможностям. От Таси давно-давно нет ничего. Когда я просил сахарину, то рассчитывал на ее помощь в этом деле, т. к. предполагал, что ей легче всего достать это. Тлущ не вздумай покупать на базаре. Рубашки если вышлешь -- хорошо. Больше пока из одежды ничего не шли, т. к. остальное -- плохое или хорошее -- у меня есть, а особенно хорошего мне иметь нельзя, так как утащат. Целую тебя. Желаю доброго здоровья. В этом году у нас рано начинается потепление, уже тает снег на дорогах, на высоких местах, хотя по утрам бывает до 20 градусов. Привет родным. Целую тебя.

**Владимир.**

Постараюсь написать письмо в ближайшее время.

*23 июня 1945 г.*

Дорогая Марилька!

Вчера написал тебе письмо, сегодня шлю второе в ответ на твои два майских письма. Погода неважная и у нас. Раньше были холода, а сейчас -- почти весь июнь дожди. Я посадил всего понемногу: огурцов, табаку, моркови, свеклы, картофеля, помидор, укропу, чесноку, луку, капусты, гороху -- в общем, очевидно, сотки почти две. Пока что пользуюсь только зеленым пером, т. к. остальное еще не скоро поспеет. Картошка, правда, взошла, а ее у меня корней 150. Повсходило и все прочее. Крыса поела всю тыкву еще в семенах (выкопала зерна в парничке), сўела даже две луковицы, так что из присланных тобою 12 растет только 10. А тут еще скоро могут пойти по грядкам двуногие крысы. Во всяком случае, думаю, что-нибудь останется и мне. От Таси я получил письмо от 25-05-45. Я ей ответил вчера. Нового она мне ничего не сообщает. А перед этим было письмо -- насчет Ларисы, что она у нее была. Не знаю, как протянем со своим здоровьем мы оба. У меня как будто бы все в порядке, даже врач-специалист отметил это. Был я у него 15-06. А вот в ночь с 1 на 2 июня вышел я из своей конторы часа в 2 ночи, упал в обморок на камни, разбил себе висок, переносицу, локоть. Сейчас, правда, все зажило, даже знаков нет. Кто знает, как будет дальше. Раньше мы работали втроем, а сейчас экономист уехал в другой пункт, его помощник стал экономистом, а я -- у него в помощь. Таким образом -- нагрузка увеличилась, и я в июне месяце смог только лишь один раз принять участие в общ. работе (субботник, "ударник" по-нашему), тогда как в тех месяцах ходил не менее 15--18 дней в месяц. Как будто бы (был слух) не будут принимать посылки к нам с 1 июня. Будет очень жалко, т. к. они для меня приносили громадную пользу. Написал Тасе, чтобы достали краски для материи -- надо перекрасить кое-какое тряпье да сшить себе гимнастерку, брюки. Не вздумай ты присылать. Пусть Тася, я ей написал, достанет свитер какой ношеный. Целую тебя. Спасибо сердечное за заботы.

**Владимир.**

Когда будешь в Москве -- возьми у них пару резинок карандашных да пару карандашей химических.

Они мне очень нужны для работы, казенных не получаю, а купить негде. Без них приходится часто одну какую спецификацию писать четыре раза вместо одного.

Если доступны более или менее нитки -- положи пару катушек белых и черных. В случае шитья -- они нужны будут для машинки.

Ты разорилась на сумочки. Если посылки будут принимать и ты будешь посылать чего -- шли все в бумаге. Все твои сумочки я выстирал, могу в них пересыпать присланное из бумаги.

**Публікацыю падрыхтавала Яніна КІСЯЛЁВА.**

**Працяг.**
**Пачатак у NN 28--30.**

## ШТО МЫ ЗА НАРОД ТАКІ

Некалькі гадоў назад у выдавецтве Беларускай Дзяржаўнай Энцыклапеды выйшла кніга "Живописная Россия: Отечество наше в его земельном, историческом, племенном, экономическом и бытовом значении: Литовское и Белорусское Полесье". Выдрукавана яна з асобніка беларускага пісьменніка Барыса Сачанкі.

Паколькі змест кнігі тычыцца непасрэдна Беларусі і ўяўляе бясспрэчную каштоўнасць для ўсіх, хто цікавіцца мінулым нашага краю, мы прапануем чытачам азнаёміцца з ёю, хаця б бегла і схематычна.

Гэтая кніга — трэці том папулярнага шматтомнага выдання "Маляўнічая Расія". Задуму выдання выказаў і ажыццявіў славуты рускі географ, падарожнік П.Сямёнаў-Цян-Шанскі (1827—1914). Анатацыя выдавецтва "БелЭН" да трэцяга тома "Маляўнічай Расіі", які выканалі рэпрынтным чынам, паведамляе: "у ... томе ... поўнасцю апісваюцца гісторыя, прырода літоўскіх і беларускіх земляў, матэрыяльная і духоўная культура народаў, што на іх жывуць". Трэці том, "Літоўскае Палессе" і "Беларускае Палессе", складзены з нарысаў. Большасць іх належыць пяру вядомага беларускага этнографа і гісторыка А.К.Кіркора.

Для развіцця ведаў пра Беларусь кніга каштоўная грунтоўным навуковым даследаваннем шматлікіх рэалій роднага краю. Аўтарам не ўдалося стварыць даведнік па розных галінах, тагачасную кароткую універсальную беларускую энцыклапедыю. З гэтага зародка праз некаторы час нарадзіліся, выраслі многія сучасныя энцыклапедычныя выданні суверэннай Рэспублікі Беларусь. Што ж цяпер пакладзена ў іх аснову з тых прынцыпаў, на якіх больш за сто гадоў назад будавалася кніга пра літоўскае і беларускае Палессе?

У першую чаргу трэці том "Маляўнічай Расіі", характарызуецца даволі аб'ектыўным падыходам да апісання гістарычных, эканамічных, этнаграфічных і інш. асаблівасцей беларускага краю. Тэндэнцыйнасці ў кнізе няма месца. Больш таго, аўтары свядома падкрэсліваюць сваю непрадузятасць, калі, напрыклад, гавораць пра этнічную адметнасць беларусаў, пра гістарычны лёс беларускага народа. Ім удаецца пераканаўча давесці, што беларусы ў цэлым заслугоўваюць долі значна лепшай за тую, якую маюць. Такім чынам, адсутнасць у вучоных, што напісалі трэці том "Маляўнічай Расіі", — "Літоўскае Палессе" і "Беларускае Палессе", — суб'ектывізму, на практыцы азначае наяўнасць у іх выразна акрэсленай грамадзянскай пазіцыі. Аўтары кнігі роўна і справядліва стаўяцца да ўсіх народаў былой Расійскай імперыі, але ў дадзеным выпадку надзвычайную ўвагу надаюць асвятленню жыцця беларускага народа. Яны засяроджваюцца на беларусах не выпадкова: менавіта апошнія спрадвеку складалі большасць карэннага насельніцтва краю, пра які пішуць вучоныя. Што дзівіць: за праўдзівай інфармацыяй аб палітычным, эканамічным, сацыяльным становішчы краю, распісанай у сухіх лічбах памянёнага энцыклапедычнага даведніка, выразна відаць эмацыянальнае стаўленне да беларусаў, простыя чалавечыя адносіны да апісваемых падзей. Даведнік створаны не халоднымі бесстароннімі назіральнікамі. Наадварот, пісалі яго навукоўцы, у каго сэрца, кажучы словамі паэта М.Багдановіча, "аб радзімай старонцы баліць".

Вось якую ацэнку даюць вучоныя здольнасці беларускага селяніна да працы: "Беларусы-земляробы пераважна і выключныя аратыя, што даўно ўжо выказалі запаветнае правіла: "паміраць збірайся, а жыта сей". На тых землях, з якіх вялікарусы даўно ўжо збеглі ў адыходныя промыслы, гэтыя засноўваюць надзеі на існаванне з упартасцю, настойлівасцю і пастаянствам". Разумовыя здольнасці беларуса вызначаюць наступным чынам: "У гэтым народзе спакон веку хавалася шмат творчых сіл, уяўленне было жывое, розум ад прыроды засяроджаны, з нахілам да гіпотэз, да ненатуральных меркаванняў, да своеасаблівых вытлумачэнняў". Аналізуючы ж гістарычнае мінулае беларускага народа, даследчыкі робяць выснову: "Беларусь — край магіл, курганоў, гарадзішчаў, мястэчкаў, урочышчаў, замкаў, замкавішчаў, — край, дзе ледзь не на кожным кроку вы сустракаеце сляды мінулага ў помніках, паданнях, песнях. І столькі навуковага багацця, так шмат матэрыялаў амаль некранутых яшчэ чакае сур'ёзных даследаванняў, археалагічных, этнаграфічных, філалагічных". З "Літоўскага Палесся" і "Беларускага Палесся" чытач дазнаецца і пра значную міфалагічную, фальклорную спадчыну беларускага народа: "Як "Сербія і Балгарыя, гэтак жа і Беларусь багацей за ўсе іншыя славянскія землі на міфалагічныя паданні і песні, што спяваюць тысячы гадоў, хаця некаторыя ўжо з хрысціянскім адценнем, але галоўны змест і пераважна нават самыя выразы бясспрэчна адносяць да часоў паганства".

"Народ працавіты, спрытны і рашучы" — такую кароткую характарыстыку даюць беларусам навукоўцы ў кнізе. Выказаная тут станоўчая ацэнка далёка не вычэрпвае ўсе ўласцівасці прадстаўнікоў беларускай нацыі, ці, паводле старой імперскай расійскай фармулёўкі, "народнасці". Пасля знаёмства з выданнем паўстае стройная карціна гаспадарчага, сямейнага і інш. жыцця беларусаў у яго гістарычным разрэзе, складваецца цэласны погляд на сярэдняга белару-

## МАЛЯЎНІЧАЯ БЕЛАРУСЬ

са. У спрошчанай форме асноўная думка кнігі гучыць так: беларус — чалавек, які небеспадстаўна можа ганарыцца слаўнай гісторыяй свайго краю і сваімі продкамі. На тэрыторыі роднага краю беларуса неаднойчы адбываліся страшэнныя знішчальныя войны, што загубілі мільёны людзей. Нягледзячы на суровыя выпрабаванні гістарычнага лёсу, сярэднестатыстычны беларус не толькі захаваў,але хіба ўзмацніў лепшыя якасці нацыянальнага характару. Прадстаўнік названай нацыі — гэта, як правіла, чалавек спакойны, працавіты, з багатай фантазіяй. У складаных абставінах яму дапамагаюць выжываць упартасць, хітрасць, скупаватасць. Наіўна-рэлігійны беларус звычайна добразычлівы і шчыры, бескарыслівы і шчодры. Аднак адчувальных струн яго душы нельга закранаць нікому. У гэтым выпадку беларус будзе з апошніх сіл абараняць родную зямлю, свае матэрыяльныя, духоўныя каштоўнасці ад ворагаў.

Аўтары трэцяга тома "Маляўнічай Расіі" паказваюць абумоўленасць назвы "беларус" знешнім выглядам насельнікаў краю. Меркаванне пра падобнае паходжанне назвы не страціла навуковага значэння і да цяперашняй пары. Праўда, цяпер яно адно сярод многіх іншых. У кнізе сказана, што назва "беларус" — штучная ,кніжная і афіцыйная. Самі сябе нашчадкі крывічоў пад гэтым імем не ведаюць, хаця па сутнасці ніводнага эпітэта нельга падабраць больш тыповага. Беларусы яны сапраўдныя: белы колер пераважае; у карэнных усё белае: твар, валасы, кашуля, шапка, штаны, кажух і світа. На жаночых таксама белая намітка, белы фартух..."

Вучоных здзіўляе пры ўсіх выдатных якасцях беларусаў незайздроснае жыццё беларускага народа. Ці не ў пасіўнасці, абыякавасці, адсутнасці ў беларуса волі да змагання за свае спрадвечныя правы бачаць яны галоўную прычыну рабскага становішча прадстаўнікоў беларускай нацыі? Працытуем: "У той час, калі паўсюль наўкола адбываліся розныя энергічныя рухі, што даходзілі да крайнасцяў фанатызму, — беларусы заставаліся заўсёды і нязменна зусім абыякавымі. Яшчэ да гэтага часу ніхто не мог паказаць, каб які-небудзь куток гэтай нерухомай краіны захапіўся вучэннем суседзяў і трапіў у палон да іх старой веры і вучэння".

Так, у XIX стагоддзі беларусы заставаліся "рэччу ў сабе", былі незнаёмы з суседзямі, абыякавыя да іх. Пасля войнаў, паўстанняў і г.д. у жыцці беларускага народа наступіў адносны зацішак. Але і тады народ заставаўся верным сабе ў фальклоры — прыказках, прымаўках.

Ідэя незалежнасці, суверэнітэту Беларусі выспявала стагоддзямі. Гэта яскрава даказвае змест трэцяга тома "Маляўнічай Расіі". Таленавіта напісаная навуковая праца прымушае задумацца над выкладзенымі ў ёй фактамі, гіпотэзамі, больш палюбіць Беларусь родную, дасканала вывучаную — значыць, вядомую. Палюбіць свядома, не проста парываннем душы.

**Святлана САЧАНКА.**

# НА ШЛЯХАХ СПАРАДНЕННЯ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Некаторыя экспанаты гэтай выставы ў Купалавам доме, як я даведалася, ужо пабывалі ў школе N 11. Але з такімі багатымі дакументамі пра сувязі нашых народаў — латышскага і беларускага — на працягу 75 гадоў варта пазнаёміцца кожнаму. Так што вас чакаюць у Літаратурным музеі Янкі Купалы на выставе, якая называецца "У сугуччы культур (Купала і Райніс)".

Дапамагчы зарыентавацца ў гэтым сугуччы экспанатаў я папрасіла супрацоўніка музея Янкі Купалы Алу Марчук.

— Супрацоўнікі нашага музея вельмі плённа шчыравалі над выставай. Яна складаецца з васьмі стэндаў, куды ўключаны рукапісы, архіўныя фота, мастацкія працы, медалі, кнігі па-латышску і па-беларуску, нават граматы. Выстава прысвечана Купалу і Райнісу — постацям розных лёсаў і пакаленняў, жыватворным крынічкам, што зліваліся ў адзінае рэчышча Дзвіны-Даўгавы...

У маёй экскурсаводкі Алы Марчук я спытала:

— Вось мы гаворым пра народную дыпламатыю, у якой удзельнічаюць і дарослыя, і дзеці. А ці можа павучыцца сённяшняе пакаленне ў Купалы, Райніса, якія так многа рабілі дзеля ўзаемаразумення паміж нашымі народамі?

— Якія б новыя межы і кардоны паміж намі ні ўсталёўваліся, нішто не зможа парушыць той моцны, трывалы падмурак, які заклалі Райніс і Купала шчыраму сяброўству латышоў і беларусаў. А новаму пакаленню, маім равеснікам, варта пераняць ад нашых папярэднікаў светлыя, чыстыя, чалавечыя адносіны...

— Як вядома, нашыя суайчыннікі жывуць у розных краінах блізкага і далёкага замежжа. А ці чутны голас тых беларусаў, якія зараз у Латвіі?

І Ала Марчук падвяла мяне да аднаго са стэндаў:

— Я пазнаёмлю вас з вельмі цікавым, таленавітым чалавекам, нашым суайчыннікам з Латвіі. Гэта творца, наўрымслівы змагар за беларушчыну — Вячка Целеш. Фактычна па яго ініцыятыве вось ужо пяць гадоў існуе ў Рызе Латвійскае таварыства беларускай культуры "Світанак"... А яшчэ ў Рызе ёсць Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны, выдаецца беларускамоўная газета "Прамень", створаны ансамбль "Надзея", у Даўгаўпілсе — таварыства "Уздым" і ансамбль "Купалінка". Вось іх фотаздымкі.

— Беларусь наладжвае эканамічныя, палітычныя стасункі з суседнімі краінамі, далёкімі Францыяй, Кітаем. А як можна, спасцігаючы вопыт Купалы і Райніса, знаходзіць новыя шляхі да ўмацавання кантактаў Беларусі і Латвіі?

— Да прыкладу, наш музей і Міжнародны фонд Янкі Купалы, прэзідэнтам якога з'яўляецца Вячаслаў Рагойша, плённа супрацоўнічаюць з Міжнародным фондам Райніса і Аспазіі. Вызначаны на будучыню канкрэтныя творчыя планы.

З задавальненнем паглядзеўшы выставу, я ўбачыла, што сярод шматлікіх матэрыялаў ёсць не толькі архіўныя дакументы, але і сучасныя артыкулы пра дзейнасць таварыстваў "Беларусь-Латвія" і "Латвія-Беларусь". Многія з іх пісаў Уладзімір Пучынскі-Пірог, сябра Рады таварыства "Беларусь-Латвія". Я звярнулася да Уладзіміра з пытаннем:

— Чаму вы зацікавіліся гэтай тэмай? Раскажыце падрабязней пра тыя мерапрыемствы.

— Я нарадзіўся на памежжы Беларусі з Латвіяй... І памятаю з самага дзяцінства, як мы ездзілі паглядзець на прыгожыя латгальскія мясціны, якія здаўна былі заселены беларусамі. Калі пісаў, то мне хацелася паказаць людзям, што сувязі паміж нашымі краінамі ўмацоўваліся стагоддзямі. Выхадцаў з Латвіі шмат жыве і ў Беларусі. Раней, калі была агульная прастора, з Беларусі ехалі ў Латвію падзарабіць, уладкавацца на працу, людзі хацелі жыць лепей, была магчымасць паехаць не на край свету, не ў Штаты ці Аўстралію, а ў суседнюю Латвію. Усё гэта трэба вывучаць, даследаваць... Трэба развіваць кантакты культурныя. Чаму не праводзіць сумесныя фэсты? Праводзяцца ж на памежжы Беларусі, Латвіі, Расіі каля Кургана дружбы сустрэчы ветэранаў. А сустрэчы моладзі? Трэба мацаваць духоўны набытак. І работа таварыства "Беларусь-Латвія" якраз і накіравана на духоўнае сугучча.

Далучаючыся да ўсяго сказанага, ад сябе хачу дадаць, што Купала і Райніс — якраз тыя імёны, якія высвечваюць нам асноўныя вехі, па якіх мы сёння можам арыентавацца ва ўсталяванні ўзаемаразумення, сяброўскіх адносінаў між беларусамі і латышамі і абапірацца на прыклад папярэднікаў — духоўных апосталаў нацыі. Давайце не будзем забывацца пра тое, што нас зблізіла, што нас яднала. Хай мацнеюць сяброўскія, але і родныя пачуцці!

А скончыць свае нататкі пра выставу я вырашыла словамі прэзідэнта Міжнароднага фонду Янкі Купалы Вячаслава Рагойшы, які пасля агляду экспазіцыі "У сугуччы культур" пакінуў наступны запіс у кнізе водгукаў: "Калі мы хочам прымусіць па-новаму, па-сучаснаму заззяць такія светлыя паняцці, як "дружба народаў", "дружба культур", "інтэрнацыяналізм", лепшую форму, чым прапанаваў Літаратурны музей Янкі Купалы і Міжнародны фонд Янкі Купалы, цяжка прыдумаць. Серыя выстаў "У сугуччы культур", што на гэты раз цудоўна выяўляе ўзаемадачыненні Купалы і Райніса, несумненна, дапаможа рэабілітаваць і самі паняцці, і папоўніць гэтыя паняцці канкрэтным сэнсам, а ўрэшце дапаможа наладзіць патрэбнае ўзаемаразуменне паміж беларусамі і іх суседзямі.

Народ, які з такой павагай ставіцца да іншых культур і іншых народаў, варты сам павагі і разумення".

**Вераніка ПАНІЗЬНІК.**

**НА ЗДЫМКУ: у зале выставы.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**



*ФІЛАТЭЛІЯ*

# ПРА БЕЛАРУСКІ СПОРТ

Першая ў Беларусі спартыўная арганізацыя -- Мінскае таварыства аматараў спорту -- узнікла ў канцы XIX стагоддзя. Да гэтага часу нашы спартсмены ўжо ўдзельнічалі ў спаборніцтвах "на лепшага ездака" ў велапрабегу да Ніжняга Ноўгарада. Пазней у некаторых гарадах утварыліся аддзяленні гімнастычнай арганізацыі "Сокал" (1909--1910 гады). У Мінску па ініцыятыве аматара спорту А. Александровіча арганізуецца філіял Пецярбургскага спартыўнага таварыства "Санітас" ("Здароўе"), у якім займаліся ў асноўным барацьбой і цяжкай атлетыкай (1913 год). Вядомыя першыя перамогі і рэкорды беларускіх спартсменаў ва ўсерасійскіх маштабах. Праводзіліся спартыўныя спаборніцтвы і ў губернскіх гарадах Беларусі. У 1911 годзе ў Магілёве разыгрываўся кубак горада па футболу. Да 1914 года ў Беларусі дзейнічала ўжо каля 70 спартыўных гурткоў, у якіх займаліся больш за 2,5 тысячы чалавек.

У філатэліі гэты перыяд беларускага спорту не адлюстраваны. На пачатку стагоддзя марак аб спорце ў Расіі не выпускалі. Аднак засталіся іншыя сведчанні, якія з'яўляюцца экспанатамі калекцыі, але не філатэлістычнай, а калекцыі філакартыста -- збіральніка паштовак. У 1910--1912 гадах у Мінску выдавалася шмат паштовак з відамі горада, на якіх сёння можна ўбачыць знікшыя пабудовы старога Мінска. На дзвюх паштоўках выпуску 1912 года паказаны будынак мінскага велатрэка (фотаздымкі А. Паўловіча) у Губернатарскім садзе (зараз парк імя Горкага).

Першы ж спартыўны выпуск пошты на беларускую тэму з'явіўся ў 1958 годзе. Тады пошта былога СССР выдала канверт з адлюстраваннем уваходнай аркі стадыёна "Дынама" ў Мінску. (Стадыён "Дынама" ўступіў у строй 12 чэрвеня 1934 года, у гады вайны быў разбураны, адноўлены ў 1947--1954 гадах). Гэта першы паштовы канверт, прысвечаны нашым спартыўным збудаванням. У 1959 годзе на гэтым стадыёне праходзіла II Спартакіяда рэспублікі. У дзень яе адкрыцця -- 5 чэрвеня -- на Мінскім паштамце прымянялі спецыяльны штэмпель (дарэчы, першы на спартыўную тэму) для гашэння карэспандэнцыі. У яго малюнку -- арка галоўнага ўваходу на мінскі стадыён "Дынама". У наступныя гады спартыўныя спаборніцтвы ў сталіцы Беларусі не раз адзначаліся выпускам марак, паштовых канвертаў і спецыяльных штэмпеляў. Раскажам толькі пра тыя з іх, якія былі прысвечаны міжнародным спартыўным спаборніцтвам, што праходзілі ў сталіцы.

У 1965 годзе ў Мінску адбыліся Міжнародныя лёгкаатлетычныя спаборніцтвы памяці братоў Знаменскіх -- спартсменаў, якія загінулі ў гады вайны. Да спаборніцтваў быў выдадзены канверт, прымяняўся спецыяльны штэмпель.




Май 1967 года расквеціў Мінск флагамі 22 дзяржаў. XXIII першынство Еўропы па класічнай барацьбе праводзілася ў новым Палацы спорту. Удзельнікі спаборніцтваў, шматлікія госці павезлі з сабой не толькі беларускія сувеніры, але і спецыяльныя канверты, пагашаныя памятным штэмпелем. У Мінску праводзіліся: чэмпіянат свету па фехтаванню сярод юніёраў (1970 год), чэмпіянат свету па біятлону (1974 год), чэмпіянат свету па барацьбе класічнай, вольнай і самба (1975 год) і шмат іншых міжнародных і рэспубліканскіх спартыўных спаборніцтваў. І ўсе яны пакінулі свой след у альбомах філатэлістаў.

Да Гульняў XXII Алімпіяды (1980 год) была выдадзена паштоўка з адлюстраваннем сталічнага стадыёна "Дынама", у дні Алімпіяды на паштамце Мінска прымяняўся спецыяльны штэмпель з футбольнай тэматыкай (у Мінску праходзілі гульні па футболу) і спецыяльны штэмпель з надпісам "Мінск алімпійскі". На малюнку штэмпеля -- адлюстраванне магутнага зубра.

У нашай рэспубліцы выхавана цэлая плеяда выдатных спартсменаў міжнароднага класа. З кожным годам расце аўтарытэт беларускага спорту на міжнароднай арэне. На жаль, у рэспубліцы (як і ў былым СССР) не выдадзена ніводнай маркі, прысвечанай беларускім спартсменам. Гераіняй спаборніцтваў у Мюнхене на XX Алімпійскіх гульнях стала наша гімнастка Вольга Корбут. Менавіта там яна зрабіла сапраўдную рэвалюцыю ў жаночай гімнастыцы, уключыўшы ў сваю праграму практыкаванні павышанай складанасці. Сёння "пятлю Корбут" на бервяне выконваюць многія гімнасткі розных краін, а тады, у 1972 годзе, гэты элемент, упершыню прадэманстраваны на алімпійскай арэне, выклікаў захапленне не толькі гледачоў, але і спецыялістаў. Двухразовай алімпійскай чэмпіёнцы Вользе Корбут прысвяціла марку паштовае ведамства Рэспублікі Экватарыяльная Гвінея. Іншых паштовых выпускаў пра нашу знакамітую спартсменку няма. Пошта ж Беларусі яшчэ не выпусціла серыю марак пра слынных спартсменаў. Усяго два прадстаўнікі спорту нашай рэспублікі паказаны на марках іншаземных дзяржаў.

У лютым 1983 года паштовае ведамства Цэнтральна-Афрыканскай Рэспублікі выдала серыю марак пра чэмпіянат свету па футболу "Іспанія-82". Адна з мініяцюр гэтай серыі прысвечана іграку зборнай СССР па футболу -- мінскаму дынамаўцу С. Бароўскаму. І яшчэ адна замежная марка расказвае пра спартыўны Мінск. У 1964 годзе ў сталіцы Беларусі быў дадзены старт 34-му міжнароднаму аўтаралі Мінск--Монтэ-Карла. Гэту спартыўную падзею пошта Манака адзначыла выпускам маркі з адлюстраваннем трасы аўтаралі і плошчы Перамогі ў Мінску. Гэта першая замежная марка, на якой паказана сталіца Беларусі.

Пошта Рэспублікі Беларусь ужо выпусціла некалькі серый спартыўных марак. Дзве з іх атрымалі ў філатэлістычным свеце скандальную славу. Шмат пра гэтыя маркі пісала і беларуская прэса. Справа ў тым, што выпушчаны яны былі адной з замежных фірмаў. Некалькі месяцаў распаўсюджваліся ў Еўропе і ў Амерыцы і толькі потым паявіліся на Беларусі. Выдадзены маркі абмежаваным тыражом, і зроблена гэта наўмысна. Але не толькі гэта абразіла ў 1993 годзе філатэлістаў. Тая серыя не чыста спартыўная, а на марках з тагачаснай дзяржаўнай сімволікай -- 1000 год праваслаўнай царкве ў Беларусі з адлюстраваннем царкоўных фрэсак і крыжа Ефрасінні Полацкай -- былі зроблены наддрукоўкі на беларускай і англійскай мовах -- Алімпійскія зімовыя гульні ў Лілехамеры і чэмпіянат свету па футболу ў ЗША. Гэта і абурыла філатэлістаў. У 1994 годзе пошта рэспублікі выпусціла маляўнічую пяцімарачную серыю пра зімовыя віды спорту. На ўсіх пяці мініяцюрах ёсць надпіс: "Лілехамер-94". Міністэрства сувязі не праводзіла ў гонар зімовай Алімпіяды спецыяльнага гашэння. Аднак філатэлісты правялі неафіцыйнае гашэнне ў дзень выпуску серыі ў паштовае абарачэнне. На спецыяльным штэмпелі ў форме сняжынкі -- надпіс "Лілехамер-94. Мінск. 30.VIII.1994" і адлюстраванне тагачаснай эмблемы Нацыянальнага алімпійскага камітэта Рэспублікі Беларусь.

**Леў КОЛАСАЎ.**









## МАЙСТРЫ



**У Драгічынскім раёне вёска Бездзеж славіцца сваімі народнымі промысламі. Тут шырока развіта ткацтва, вышыўка, вязанне кручком. Добра вядомая ў вёсцы сваімі тканымі дыванамі Сцепаніда СТРАПКО (на здымку). Ёй ужо амаль семдзесят гадоў, ткацтву навучылася з дзесяці гадоў у сваёй маці. Цяпер Сцепаніда Міхайлаўна садзіцца за ткацкі станок не часта, толькі дзеля задавальнення, каб успомніць маладосць, іншы раз зацягнуць песню, што спявала ў дзявоцтве, седзячы доўгімі зімнімі вечарамі за кроснамі.**

**Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА.**

## РУЧНІКІ СВАТОЎ У МУЗЕІ

Шмат прыемных мінут дастаўляе наведвальнікам выстава беларускіх ручнікоў, якая адкрылася ў Слонімскім раённым краязнаўчым музеі.

Сем дзесяткаў маляўнічых экспанатаў, што прадстаўлены тут, выраблены рукамі мясцовых майстрых. Вызначаюцца яны не толькі тэхнікай ткацтва, але і разнастайнасцю малюнкаў, іх колерам і размяшчэннем у залежнасці ад таго, для чаго вырабы прызначаны. Самыя арыгінальныя будуць адабраны для выставы, якую плануецца адкрыць у абласным цэнтры.

## ТЭАТР У БІБЛІЯТЭЦЫ

Лялечны тэатр пачаў дзейнічаць у Салігорскай дзіцячай бібліятэцы.

Кожнае прадстаўленне — гэта сінтэз найбольш вядомых казак. Пішуць сцэнарыі, шыюць касцюмы і выступаюць у ролі акцёраў самі работнікі бібліятэкі. Галоўныя гледачы — выхаванцы дзіцячых садоў. Пасля прадстаўлення бібліятэкары знаёмяць іх з казкамі, па сюжэтах якіх пастаўлены спектакль, з новымі кніжкамі, запрашаюць стаць іх чытачамі.

*СПОРТ*




**Малая авіяцыя -- дэльтапланеры, дэльталёты, лёгкія самалёты -- знаходзіць усё больш прыхільнікаў. Клубы малой авіяцыі створаны ў многіх гарадах Беларусі. А ў маі мотадэльтапланерысты сабралі невялікі фестываль у Брэсце. Яны паказалі сваё майстэрства сотням жыхароў пагранічнага горада.**

**НА ЗДЫМКУ: у небе -- дэльталёты.**

**Фота Эдуарда КАБЯКА.**

**Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**
**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").**



**НАШ АДРАС:**
**220005, Минск, праспект Ф. Скарыны, 44.**

**Тэлефоны: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**



**Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 796. Падпісана да друку 29.7. 1996 г.**